ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 13 (2539)
ПЯТНІЦА
26
сакавіка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



# XXIV з'езд КПСС

Мал. В. ТАРАСАВА.

# ЖЫЦЦЁВАЯ СІЛА

**КАНДЫДАТ У ЧЛЕНЫ ПАЛІТБЮРО ЦК КПСС, ПЕРШЫ САКРАТАР ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ, ДЭЛЕГАТ XXIV З'ЕЗДА КПСС П. М. МАШЭРАЎ АДКАЗАЎ НА ПЫТАННІ «ЛИТЕРАТУРНОЙ РОССИИ». З ДАЗВОЛУ РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «ЛИТЕРАТУРНАЯ РОССИЯ» МЫ ДРУКУЕМ ГЭТАЕ ІНТЭРВ'Ю СЁННЯ—АДНАЧАСОВА З ЛІТАРАТУРНЫМ ШТОТЫДНЁВІКАМ РАСІІ.**

**«У Вялікую Айчынную вайну Савецкая Армія, у радах якой змагаліся лепшыя сыны народаў-братоў, прынесла нашай рэспубліцы вызваленне ад акупантаў. На беларускай зямлі ў партызанскіх злучэннях тры гады запар самаадданна змагаліся з ворагам разам з беларусамі рускія, украінцы, грузіны, казахі, прадстаўнікі іншых народаў нашай краіны. І цяпер, ва ўмовах мірнага жыцця, на кожным прадпрыемстве, у кожным вырабе, у кожным метры тканіны, створаных у Беларусі, моцна перапляліся ніці вялікай дружбы, цесных сувязей, якія ўзаемаўзбагачаюць народы нашай Радзімы.**

**... Развіццё эканомікі краіны ў цэлым, паспяховае вырашэнне ўсіх агульнасаюзных задач знаходзяць сваё найлепшае спалучэнне з інтарэсамі гарманічнага развіцця народнай гаспадаркі саюзных рэспублік. Гэта з'яўляецца канкрэтным праяўленнем вялікай жыццёвай сілы ленінскай нацыянальнай палітыкі, якую праводзіць наша партыя, яе Цэнтральны Камітэт».**

(З прамовы П. М. Машэрава на XXIII з'ездзе КПСС).

**РЭДАКЦЫЯ. Перыяд, які мінуў пасля XXIII з'езда КПСС, быў адзначаны далейшым ростам і ўмацаваннем дружбы народаў СССР, заснаванай на агульнасці іх інтарэсаў і мэт. Пётр Міронавіч, раскажыце, калі ласка, у чым найбольш ярка праявіліся поспехі ленінскай нацыянальнай палітыкі на прыкладзе Савецкай Беларусі!**

**П. М. МАШЭРАЎ.** Братэрства народаў, якое завяшчаў нам вялікі Ленін, створанае Камуністычнай партыяй і загартаванае ў горне жорсткіх класавых бітваў і стваральнай працы, з'яўляецца асновай усяго нашага жыцця, невычарпальнай крыніцай сусветна-гістарычных перамог, атрыманых савецкім народам у будаўніцтве сацыялізма і камунізма.

У гістарычным лёсе Савецкай Беларусі, як і ў жыцці і развіцці іншых саюзных рэспублік, з усёй паўнатой праявіліся вялікая сіла і мудрасць ленінскай нацыянальнай палітыкі. Гэта палітыка дазволіла ператварыць былыя адсталыя нацыянальныя ўскраіны ў квітнеючыя сацыялістычныя рэспублікі з бурна растучай індустрыяй і высокаразвітай сельскай гаспадаркай. Пераканаўчае сведчанне гэтаму — Беларусь. Толькі за гады восьмай пяцігодкі аб'ём прамысловай вытворчасці ў рэспубліцы павялічыўся амаль на 80 працэнтаў замест 70 працэнтаў, прадугледжаных Дырэктывамі XXIII з'езда КПСС. Апярэджваючае развіццё атрымалі найбольш прагрэсіўныя галіны: электроніка, хімічная індустрыя, прыборабудаванне і радыётэхніка. Істотна вырасла тэхнічнае аснашчэнне вытворчасці. За пяць апошніх гадоў у БССР комплексна механізавана і аўтаматызавана больш як 500 вытворчасцей, цэхаў і ўчасткаў, укаранёна звыш 1 330 механізаваных паточных і аўтаматычных ліній, створана 16 вылічальных цэнтраў, уступілі ў строй 12 аўтаматызаваных сістэм кіравання вытворчасцю і тэхналагічнымі працэсамі. У 1970 годзе наша рэспубліка дала 49 працэнтаў калійных угнаенняў, якія здабываюцца ў краіне, 19 — поліэтылену, 10 — хімічных валокнаў, 18 працэнтаў трактароў, 13 працэнтаў металарэзных станкоў і аўтаматычных ліній, 22 працэнты матацыклаў.

Слаўна папрацавалі ў мінулым пяцігоддзі і працаўнікі беларускага сяла. Вытворчасць валавой прадукцыі ў калгасах і саўгасах павялічылася на 45 працэнтаў, прадукцыйнасць працы павысілася на 50 працэнтаў. Зборы зерня выраслі на 53 працэнты, бульбы — на 43 працэнты, вытворчасць мяса — на 73, малака — на 66 працэнтаў і яек — у 2,4 раза. Датэрмінова выкананы пяцігадовы план нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі.

**РЭДАКЦЫЯ. А ў чым канкрэтна выявілася дапамога іншых братніх рэспублік у працоўных поспехах Беларусі!**

**П. М. МАШЭРАЎ.** Літаральна ва ўсім. Нашы дасягненні ўвасабляюць сабой сумесную працу ўсіх савецкіх народаў, іх братнюю ўзаемадапамогу і плённае супрацоўніцтва ў вырашэнні агульных задач гаспадарчага будаўніцтва. Расійская Федэрацыя і Украіна, Узбекістан і Азербайджан, Латвія і Літва і іншыя рэспублікі пастаўляюць Беларусі метал і трубы, грузавыя аўтамабілі і электрарухавікі, вагоны і аўтобусы, тралейбусы, збожжавыя камбайны і многае іншае. Як увасабленне адзінства дзеячняў усіх саюзных рэспублік з'явілася ўзвядзенне ў БССР такіх буйных прамысловых прадпрыемстваў, як салігорскія калійныя камбінаты, наваполацкія нафтаперапрацоўчы завод і хімкамбінат, Гродзенскі азотнатукавы завод, Баранавіцкі баваўняны і Пінскі трыкатажны камбінаты, Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна, Лукомльская ДРЭС і іншых. На іх будаўніцтве плённа працавалі прадстаўнікі амаль 40 нацыянальнасцей: рускія і ўкраінцы, узбекі і казахі, грузіны і армяне, літоўцы і латышы, азербайджанцы і малдаване, кіргізы і таджыкі і многія іншыя. Вялізны аб'ём работ выкананы за пяцігодку ў рэспубліцы спецыялізаванымі арганізацыямі саюзнага Міністэрства мантажных і спецыяльных будаўнічых работ. Дзейнасць гэтых калектываў садзейнічала датэрміноваму ўводу ў строй буйных аб'ектаў хімічнай індустрыі, якія маюць вялікае народнагаспадарчае значэнне.

У сваю чаргу працоўныя Беларусі ўносяць важкі ўклад у агульнанародную справу стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, з гонарам выконваюць свой братэрскі абавязак перад усімі народамі сацыялістычнай Радзімы. Аўтамабілі і трактары, станкі і аўтаматычныя лініі, вылічальныя машыны і радыёапаратура, землярыйныя экскаватары і матацыклы, мінеральныя ўгнаенні і сінтэтычныя валокны, халадзільнікі і газавыя пліты, тэлевізары і радыёпрыёмнікі, дываны і тканіны — усё гэта і многае іншае адпраўляецца з БССР ва ўсе саюзныя рэспублікі.

Братэрскае супрацоўніцтва Беларускай ССР з іншымі рэспублікамі праяўляецца і ў форме працоўнай ўзаемадапамогі. Каля 100 тысяч маладых беларусаў працуюць на будаўніцтве заводаў, шахтаў, электрастанцый у Сібіры, на Далёкім Усходзе і ў многіх іншых раёнах СССР. Напрыклад, толькі ў будаўніцтве Брацкай ГЭС прынялі ўдзел больш 2 300 пасланцоў Беларусі.

Працоўныя нашай рэспублікі, як усе савецкія людзі, з найвялікшай сардэчнай чуласцю адгукнуліся на патрэбы жыхароў пацярпеўшага ад землятрасення Ташкента. Звыш дзвюх тысяч беларускіх будаўнікоў аднаўлялі сталіцу Узбекістана — яны пабудавалі больш як 26 тысяч квадратных метраў жылля, узвялі школу.

**РЭДАКЦЫЯ. Шырока вядомы дасягненні вучоных Беларусі, іх значны ўклад у развіццё ўсёй савецкай навукі. Як пашыраюцца і мацнеюць творчыя сувязі паміж вучонымі Беларусі і іншых рэспублік!**

**П. М. МАШЭРАЎ.** Гэтыя сувязі праяўляюцца праз дагаворы садружнасці, сумеснае выкананне актуальных праблем навуковай тэматыкі, абмен вопытам і методыкай даследаванняў, сумеснае правядзенне навуковых канферэнцый і нарад і да т. п. Напрыклад, Інстытут фізікі АН БССР падтрымлівае пастаянныя сувязі з многімі інстытутамі АН СССР і вядучымі інстытутамі акадэмій Украінскай і Эстонскай ССР. З большасцю з іх інстытут праводзіць сумесныя работы ў галіне квантавай электронікі. Інстытут фізікі АН БССР аказвае дапамогу ў падрыхтоўцы навуковых кадраў Таджыкістану, Азербайджану і Арменіі.

Вучоныя Акадэміі навук СССР аказваюць навукова-метадычную дапамогу, удзельнічаюць у рабоце камісій па праверцы стану і вызначэнні далейшага развіцця некаторых навуковых устаноў або асобных навуковых напрамкаў у Акадэміі навук БССР.

Агульнасаюзнае прызнанне атрымалі работы вучоных АН БССР у галіне праблем цепла- і масапераносу і аўтаматызацыі праектавання ў машынабудаванні з дапамогай ЭВМ. Матэматычнае забеспячэнне ЭВМ тыпу «Мінск», якое распрацоўваецца ў Інстытуце матэматыкі АН БССР, укараняецца ў вылічальных цэнтрах і арганізацыях краіны. Інстытуты Акадэміі навук БССР на аснове гаспадарчых дагавораў укараняюць вынікі даследаванняў на больш чым 20 прадпрыемствах і ў арганізацыях саюзных рэспублік.

**РЭДАКЦЫЯ. Якое выяўленне і праяўленне знаходзяць, на ваш погляд, прынцыпы ленінскай нацыянальнай палітыкі ў галіне культуры, літаратуры, мастацтва!**

**П. М. МАШЭРАЎ.** Беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, работнікі тэатра і кіно стварылі нямала твораў, якія яскрава адлюстравалі знамянальныя з'явы ў жыцці нашага народа і яго гераічнай гісторыі і



## ад пятніцы да пятніцы

### З ПАЧУЦЦЁМ СЯМ'І АДЗІНАЙ

У Гродне адбылася рэспубліканская навуковая канферэнцыя, прысвечаная 30-годдзю ўз'яднання заходніх абласцей Беларусі ў адзінай Савецкай дзяржаве. У яе рабоце прынялі ўдзел гісторыкі і літаратуразнаўцы Гродна, Мінска, Масквы, Брэста, Гомеля, Магілёва.

Нядаўна з друку выйшаў зборнік матэрыялаў гродзенскай канферэнцыі. Ён складаецца з дзвюх частак. Першая адкрываецца артыкулам М. Арэхвы «Барацьба КПЗБ за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і ўз'ядпанне Заходняй Беларусі з БССР». Яна прысвечана важным навуковым праблемам гісторыі барацьбы працоўных заходніх абласцей Беларусі за далучэнне да БССР. У другой частцы (яна пачынаецца артыкулам сакратара Гродзенскага абкома партыі А. Ульяновіча «Дасягненні працоўных Гродзенскай вобласці ў развіцці эканомікі і культуры за 30 год») расказваецца аб дасягненнях Заходняй Беларусі за гады Савецкай улады.

Асаблівую цікавасць выклікаюць літаратуразнаўчыя матэрыялы. Артыкул загадчыка кафедры Гродзенскага педінстытута А. Пяткевіча прысвечаны адлюстраванню жыцця працоўных Заходняй Беларусі ў польскай прозе.

М. Пасяўцова сваё даследаванне прысвяціла песняру вызвалення Заходняй Беларусі Міхасю Васільку. Аб сумесных беларуска-руска-польскіх рэвалюцыйных традыцыях, аб творчасці А. Гурыновіча, Ф. Багушэвіча, публіцыстыцы К. Каліноўскага гаворыцца ў цікавай працы А. Смірнова (Масква). Шкада толькі, што ў зборніку не знайшлося месца для артыкулаў аб развіцці заходнебеларускай літаратуры ў цэлым і аб сучасных пісьменніках, якія жывуць і працуюць на Гродзеншчыне і Брэстчыне.

А. РАЖКО,
студэнтка БДУ.

### ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

### ЭКСКУРСІЯ Ў СТАРЫ ВІЦЕБСК

Экспазіцыя Віцебскага абласнога краязнаўчага музея папоўнілася турнікетам, які знаёміць наведвальнікаў са старым Віцебскам. Больш чым 50 экспанатаў расказваюць пра дарэвалюцыйныя будынкі, архітэктурныя помнікі Віцебска. Сярод іх прыцягвае ўвагу гарадская ратуша (1775 год), будынак былога акруговага суда, палац губернатара сярэдзіны XIX стагоддзя, Задунаўская вуліца, стары Ялагінскі раён і многія іншыя. Турнікет прысвечаны 1000-годдзю Віцебска.

Ф. НІКАЛАЕЎ.

### У САЮЗЕ МАСТАКОЎ

Пытанням развіцця дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў сістэме Мастацкага фонду БССР быў прысвечаны пленум праўлення Саюза мастакоў Беларусі, які адбыўся 24 сакавіка.

З дакладамі на пленуме выступілі старшыня праўлення мастацкага фонду Саюза мастакоў БССР Л. Асецкі і дырэктар мастацка-вытворчага камбіната мастацкага фонду У. Гардзіенка.

Пасля дакладаў адбыліся спрэчкі.

ўвайшлі ў скарбніцу савецкай шматнацыянальнай культуры. У адказнейшых усесаюзных і міжнародных аглядах нашы мастакі і выканаўцы неаднаразова заваёўвалі лаўрэацкія і прызавыя месцы. Вялікай падзеяй, напрыклад, у апошнія гады з'явілася прысуджэнне Ленінскай прэміі нашым архітэктарам і скульптарам за мемарыяльны комплекс «Хатынь», які ўвекавечыў бяспрыкладную мужнасць савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Ва ўсіх гэтых поспехах у той ці іншай форме мы бачым жыватворны ўплыў творчай садружнасці і братняй дружбы народаў нашай краіны, і ў першую чаргу дружбы з вялікім рускім народам, нашым старэйшым братам. Гэта дружба знаходзіць сваё канкрэтнае выяўленне ў абмене духоўнымі каштоўнасцямі, якія ўсё ўзрастаюць і паглыбляюцца, у пашырэнні культурных сувязей. Сталі традыцыйнымі ўжо такія формы духоўнай сувязі нашых народаў, як дні і дэкады літаратуры і мастацтва. У апошнія гады Дні беларускай літаратуры і мастацтва прайшлі ў Маскве, у многіх гарадах Расійскай Федэрацыі, Узбекістане. У сваю чаргу з вялікім грамадскім і палітычным гучаннем праведзены на беларускай зямлі літаратурныя вечары паэтаў Расійскай Федэрацыі, Дэкада узбекскай літаратуры і мастацтва, творчыя сустрэчы з радам вядомых пісьменнікаў, дзеячоў культуры і цэлымі творчымі калектывамі Украіны, Латвіі, Літвы і іншых саюзных рэспублік.

Далейшае развіццё атрымала выдавецкая дзейнасць. Гэта развіццё характарызуецца не толькі лічбамі росту нашай кніжнай прадукцыі, павелічэннем тыражоў кніг нашых празаікаў, паэтаў, крытыкаў, але і шырынёй нацыянальных і інтэрнацыянальных сувязей. Творы рускай і зарубежнай класікі, лепшыя творы пісьменнікаў краін сацыялістычнай садружнасці, як і лепшыя творы пісьменнікаў саюзных рэспублік, выдаваліся, выдаюцца і перавыдаюцца ў нас на беларускай і рускай мовах. І гэтак жа выглядаюць, наколькі мне вядома, выдавецкія планы іншых нашых рэспублік — беларускія аўтары ў перакладах на нацыянальныя мовы займаюць там не апошняе месца.

Ленінградскія таварышы, напрыклад, выдалі ў перакладзе на рускую мову анталогію беларускага апавядання і беларускай аповесці. На ўкраінскай мове выходзіць двухтомная анталогія беларускай паэзіі, якая ўключае творы больш як 70 нашых аўтараў. На літоўскай, узбекскай, грузінскай і іншых мовах народаў нашай краіны выдаваліся і выдаюцца лепшыя беларускія кнігі.

Мы пачалі практыкаваць у сябе ў рэспубліцы выданне лепшых твораў адразу на трох мовах у адным выданні. Напрыклад, паэма народнага паэта Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» выдадзена ў адной кнізе на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах. Чытач атрымлівае такім чынам кнігу велізарнай эстэтычнай каштоўнасці.

І выступленні нацыянальных творчых калектываў з іншых рэспублік, і пастаноўкі п'ес, і пераклады лепшых твораў літаратуры на беларускую мову — усё гэта садзейнічае духоўнаму ўзбагачэнню і росту як дзеячоў культуры, так і шырокіх працоўных мас, павышае іх кругагляд, палітычную сталасць, вядзе да хуткага агульнага ўздыму ва ўсіх галінах матэрыяльнага і духоўнага жыцця нашай рэспублікі, усяго нашага народа, сведчыць аб багацці інтэлектуальнага жыцця савецкага грамадства, шырыні духоўных запатрабаванняў працоўных.

Развіццё культуры ў нашай рэспубліцы, зразумела, мае і свае складанасці, і свае недахопы, і свае вялікія і сур'ёзныя праблемы. Мы бачым і разумеем гэта і з улікам гэтых праблем будуем сваю работу. Але мы з радасцю адзначаем і падкрэсліваем як залог нашага руху наперад, што фактаў сапраўднай творчай дружбы братніх рэспублік — вялікае мноства на беларускай зямлі. Часам іх нават не заўважаюць, лічаць нормай паўсядзённага жыцця. І гэта цудоўна, таму што яшчэ і ў гэтым з'яўляецца перад светам, паводле выразу У. І. Леніна, «ва ўсёй яго велічы і прыгажосці наш дэмакратычны і сацыялістычны ідэал».

Веліч і магутнасць інтэрнацыянальнага братэрства будаўнікоў камунізма з асаблівай яркасцю раскрыліся ў дні святкавання 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, 50-годдзя Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі, юбілеяў іншых рэспублік Савецкага Саюза. Гэтыя ўрачыстасці выліліся ў незабыўную дэманстрацыю адзінства і згуртаванасці сацыялістычных нацый, бязмежнай адданасці савецкіх народаў вялікай справе Камуністычнай партыі.

У сумеснай барацьбе за пабудову камунізма расце і мацнее дружба савецкіх народаў, пашыраецца і паглыбляецца рознабаковы абмен паміж нацыямі. Цяпер гэты працэс носіць узаемны характар у адрозненне ад першага перыяду будаўніцтва сацыялізма, калі эканамічныя і культурныя сувязі мелі на ўвазе перш за ўсё падтрымку менш развітых народаў з боку Цэнтральнай Расіі, якая выйшла наперад. Гэтыя вялікія вынікі ленінскай нацыянальнай палітыкі стварылі ўмовы для яшчэ больш глыбокіх сувязей і шырокага ўзаемаўзбагачэння культур усіх братніх рэспублік, усіх народаў, якія насяляюць нашу сацыялістычную Айчыну.

У свядомасці беларускага народа жыве і заўсёды будзе жыць пачуццё глыбокай удзячнасці і вялікай дружбы да рускага і іншых народаў, у адным страі з якімі мы ўзняліся да вялікіх вышынь развіцця сваёй нацыянальнай культуры.

Мінск.

Павел КАВАЛЁЎ

# ПРАЦА НАТХНЁНАЯ І МЭТАНАКІРАВАНАЯ

Сёння, напярэдадні важных падзей у гісторыі нашай краіны, нашай літаратуры, хочацца выказаць некаторыя думкі, што хвалююць мяне як грамадзяніна і літаратара. Падкрэсліваю словы — як грамадзяніна і літаратара, бо я аніяк не магу падзяляць гэтыя паняцці, а, наадварот, з усёю сілаю хочацца падкрэсліць, што ў сучасных умовах літаратурная праца і ёсць высокі грамадзянскі абавязак, бо яна паўстала ўпоравень з творчай працай усяго народа, да яе праяўляюць вялікую цікавасць усе савецкія людзі; справы літаратурныя, як і марыў Уладзімір Ільіч Ленін, сталі ў нас справамі агульнанароднымі.

Дык ці можна сёння забыць галоўнае — гаворку пра нашу працу! Працу натхнёную і мэтанакіраваную. І да яе, толькі да яе кіраваць нашу ўвагу. Гаварыць аб яе змесце, гаварыць аб яе напале, гаварыць аб яе якасці і яе карысці. Гэта адчуў я вельмі востра ў апошнія сустрэчы з чытачамі на Магілёўшчыне, а потым на партыйным сходзе, слухаючы расказ намесніка Старшыні Савета Міністраў і Старшыні Дзяржплана БССР П. Л. Кохана аб эканамічным развіцці нашай рэспублікі і новых далягладах, што вызначаюцца ў праекце Дырэктыў XXIV з'езда партыі.

Мяне радуюць поспехі краіны ў гаспадарчым будаўніцтве. Скрозь відаць прыемныя, захапляючыя вынікі працы людзей за мінулую пяцігодку. Радуюць людзі, іхні рост, іхнія намеры, іхняя самаадданасць справам партыі і дзяржавы, іхняя бязмежная любоў да сваёй зямлі, сваіх зямных спраў. Скажу, што на Магілёўшчыне, якая па тэмпах свайго развіцця нядаўна адставала, мы на свае вочы бачылі такое, што выклікае толькі захапленне. Перш за ўсё — гэта прамысловы рост і выхад яе прадукцыі далёка за межы СССР, гэта рост ураджаяў у калгасах і саўгасах, новы ўзровень механізацыі і электрыфікацыі, набліжэнне сельскага быту да гарадскога, рост культурных інстытутаў і г. д.

Вось толькі два прыклады таго, чым ганарацца сёння людзі.

На Магілёўскім аўтамабільным заводзе імя Кірава галоўны яго інжынер Уладзімір Мікалаевіч Кулагін назваў нас, літаратараў, сваякамі па адной толькі лініі. Ён казаў: многія кнігі беларусаў ведаюць за рубяжамі СССР, прадукцыя нашага завода таксама ідзе ў 67 краін свету.

Добрае, радаснае сваяцтва!

У маленькім Глуску, далёкай «глыбінцы», пабудаваны новы масласырзавод — прадпрыемства сучаснае і з найлепшым абсталяваннем. Дырэктар завода Таісія Несцераўна Раеўская, паказваючы нам яго цэхі, нібы між іншым, гаварыла:

— Перапрацоўваем сёння ў дзень 30 тон малака, а можам перапрацоўваць 60, а пры некаторым павелічэнні колькасці кваліфікаваных рабочых і ўсе 100 тон. Няхай калгасы не баяцца павялічваць надоі...

А ці можам вось так мы, літаратары, быць задаволенымі вынікамі сваёй творчай працы — асабліва за апошнія гады? Не, задаволенасці поўнай няма, адставанне наша яўнае. Пра гэта можна сказаць мне, як супрацоўніку часопіса «Полымя», зусім канкрэтна. У партфелі нашай рэдакцыі няма сёння твораў, якія б вызначаліся высокай якасцю, мала твораў вялікага грамадзянскага гучання, зусім мала твораў на вельмі важныя тэмы сучаснасці. Таму і чуеш часам папрокі: «Што ж гэта вы надрукавалі слабаваты твор». А рэдакцыя ж не хавае ад сваіх чытачоў лепшае. Друкуе толькі тое, што ёсць, тое, што паяўляецца ў літаратуры, што прапануюць самі літаратары.

Вось чаму я лічу зусім справядлівай крытыку ў наш адрас, якая была ў дакладзе П. М. Машэрава на XXVII з'ездзе Кампартыі нашай рэспублікі, і думаю, што яна павінна ўсіх нас, камуністаў і беспартыйных, знатных і радавых, старэйшых і маладых пісьменнікаў, мабілізаваць на працу натхнёную і мэтанакіраваную. Пра гэта, галоўнае, я зараз думаю, пра гэта — галоўнае — павінен быць наш неадкладны клопат і наша гаворка на чарговым пісьменніцкім форуме.

Мне хочацца сказаць, што ўсё залежыць ад нас саміх, ад нашай свядомасці, актыўнасці, мабілізаванасці. І, каб натхнёна, з поўнаю аддачаю сваіх сіл і ў меру сваіх здольнасцей працаваць, мы можам кожны сам сабе даць такі загад. У нас ёсць і вопыт, і колькасць штатаў, вырасла наша пісьменніцкая арганізацыя — ідзе ў яе рады здольная моладзь, ёсць у нас багатая рэчаіснасць, якая нараджае новага героя, што сам просіцца ў новыя творы.

І, каб праца была мэтанакіраванай, мне думаецца, нам трэба ўзмацніць арганізацыйны пачатак у нашым творчым асяроддзі. Што я маю на ўвазе? Перш за ўсё праяўляць канкрэтны клопат аб людзях у час іх творчай працы над канкрэтнымі рэчамі, дапамагаць і ўвагаю, і матэрыяльна. Не адны толькі творчыя камандзіроўкі я маю на ўвазе. Другое — і саюз, і часопісы, і выдавецтва, і Міністэрства культуры БССР павінны пісьменніка ўгаворваць (я б так сказаў) на напісанне пэўных твораў і на пэўную тэматыку. Вядома, з улікам творчых магчымасцей кожнага.

Думаю, што гэты мой тэзіс — надаць увагу арганізацыйнаму боку нашай працы — можна і больш канкрэтызаваць, але зараз я хачу толькі падкрэсліць асноўную думку — і нам трэба планаваць, арганізоўваць, накіроўваць не наогул, а канкрэтна ў кожным асобным выпадку нашу творчую працу. Настойлівасць у гэтым таксама неабходна. Пускаць усё на самацёк — не можа быць метадам работы такой грамадскай арганізацыі, якой з'яўляецца наш Саюз пісьменнікаў.

XXIV з'езд КПСС вызначыць новыя задачы нашага далейшага наступу наперад. Вызначаны будуць і нашы, пісьменніцкія задачы. Пра іх выкананне, пра наш грамадзянскі абавязак, пра нашу галоўную службу — працаваць натхнёна і мэтанакіравана — будзем мы радзіцца і на сваім шостым пісьменніцкім з'ездзе.

Хочацца верыць, што ў суровы і ўзнёслы, працавіты і клапотны наш час мы правільна вызначым свае абавязкі і сіл не пашкадуем, каб быць дастойнымі звацца надзейнымі памочнікамі нашай вялікай і мудрай Ленінскай партыі.




## У ГОНАР 25-ГОДДЗЯ ТРАКТАРНАГА...



По традыцыі ў трэцюю сераду кожнага месяца пачынаючыя літаратары трактаразаводскага літаб'яднання збіраюцца на пасяджэнні, дзе абмяркоўваюць свае новыя творы аб родным заводзе, аб людзях, з якімі яны разам жывуць і працуюць. Зараз у заводскіх паэтаў і празаікаў асаблівы творчы настрой: рэдакцыя газеты «Трактор» аб'явіла конкурс на лепшыя вершы, апавяданні і нарысы ў гонар юбілею двойчы ардэнаноснага Мінскага трактарнага завода — у маі яму спаўняецца 25 гадоў.

Пра ўдзел у конкурсе і ішла гаворка на апошнім пасяджэнні літаб'яднання, у часе якога быў зроблены гэты здымак. У госці да заводскіх літаратараў прыйшлі паэт Анатоль Вярцінскі (першы справа) і перакладчык Мікола Татур (пяты справа).

Фота В. ЛЯШЧОВА.



Панарама Магнітагорскага камбіната.

# ЛЕГЕНДЫ І БЫЛІ

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ,
Уладзімір КАРАТКЕВІЧ,
Уладзімір ПАЎЛАЎ,
Міхаіл ЧУРЫЛІН

КАЛІ Усесаюзнае бюро прапаганды мастацкай літаратуры прапанавала групе беларускіх літаратараў наведаць Урал, мы аднадушна абралі Магнітку, якая заўжды прыцягвала да сябе пісьменнікаў гэтак жа моцна, як магніт прыцягвае жалеза. Менавіта з Магніткі пачыналіся нашы пяцігодкі, пачыналася магутнасць нашай індустрыі, энтузіязм нашых будаўнікоў, адсюль бяруць пачатак вытокі і сённяшніх нашых здзяйсненняў. Гэта цікава: напярэдадні XXIV з'езда КПСС, які зацвердзіць план дзевятай пяцігодкі, пабываць на месцы, дзе закладаліся асновы пяцігодкі першай.

Дэлегацыю нашу ўзначальваў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, сакратар праўлення нашага Саюза пісьменнікаў Янка Брыль, а ў склад яе ўваходзілі Алесь Адамовіч, Мікола Аўрамчык, Васіль Вітка, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка, Іван Навуменка і Уладзімір Паўлаў.

...Летучы на ўсход, мы ляцім у ноч. Так ужо распарадзілася прырода: ляціш на захад — ляціш разам з часам, а, пры сучасных хуткасцях, здараецца і абганяеш яго. А калі ляціш на ўсход — ляціш насупраць паясному часу.

...Мы ляцелі над Уралам. Ноччу. Але гэта не была ноч. Унізе на многія кіламетры гарэлі мільярды агнёў, палала вялізнае, як вокам сягнуць, зарыва. Нібы тысячы зорак таямніча надміргвалі нам знізу.

...У вельмі сучасным, мадэрновым аэрапорце Магнітагорска — шкло і пластык, жалезабетон і прастора, святло і цеплыня. Знадворку мароз у дваццаць пяць градусаў, а тут да ўтульнасці і цеплыні далучылася яшчэ і чалавечая цеплыня. Нас гасцінна сустрэлі прадстаўнікі камбіната, партыйныя і прафсаюзныя работнікі. Сярод іх быў і адзін з аўтараў гэтых радкоў, ветэран Магніткі і яе летапісец Міхаіл Чурылін.

Рухавыя камбінатаўскія аўтобусікі вязуць нас у камбінатаўскую гасцініцу. Тут увогуле ўсё камбінатаўскае — трамваі, аўтобусы, электрычнасць і цеплацэнтралі, палацы культуры і кінатэатры, цудоўны драматычны тэатр і спартыўныя комплексы...

Мы шмат чулі і чыталі, шмат завочна ведалі пра Магнітагорск, але тое, што адкрылася нашым вачам, пераканала нас, што мы цалкам не ўяўлялі дагэтуль усёй велічы і прыгажосці Магніткі. Бо, кажуць, лепш адзін раз убачыць, чым сем разоў пачуць.

За плячыма горада ледзь не да неба ўставалі вялізныя курыльніцы труб, над якімі свяцілася дымнаватае полымя, а над імі ўзвышаліся гіганцкія карпусы, цягнуліся шматкіламетровыя эстакады, снавалі па камбінатаўскіх пад'язных пуцях чыгуначныя саставы. Горача дыхалі доменныя і мартэнаўскія печы, працавіта вухкалі пракатныя станы. І здорава ж камбінат, мабыць, грэў неба ў гэты сцюжны ўральскі дзень!

НАСТУПНАГА дня мы сустрэліся з першым сакратаром Магнітагорскага гаркома партыі Уладзімірам Васілевічам Каласком. Падчас вайны, юнаком, ён прыехаў сюды з Нежына і вось ужо амаль трыццаць гадоў жыве і працуе тут. Спачатку школа ФЗН. Затым пракатны цэх, вячэрняе аддзяленне горна-металургічнага інстытута. З 1965 года — сакратар гаркома. З мая 1970 — першы сакратар.

— Мы ўпершыню сустракаемся з такой прадстаўнічай групай пісьменнікаў, — гаворыць Уладзімір Васілевіч. — Ніштo так не зрадняе народы паміж сабой, як літаратура, — прыгадвае ён словы Горкага.

Уладзімір Васілевіч падрабязна пазнаёміў нас з гісторыяй горада. Горад пачынаўся з першай палаткі і першага барака ля гары Магнітнай і да вайны размяшчаўся толькі на левым, азіяцкім беразе ракі Урал. Зараз жыллёвае будаўніцтва на гэтым беразе поўнасцю спынена. Горад пасля вайны пераступіў Урал і шырока разліўся на яго еўрапейскім беразе... Сказаўся клопат аб людзях. У гэтым раёне пануюць паўднёва-заходнія вятры, і ў горадзе на правым беразе цяпер свежае, чыстае паветра. Жыллёвыя масівы паступова перасяляюцца туды. І гэта сапраўды зялёны, прыгожы горад, кварталы якога нагадваюць кварталы многіх беларускіх буйных гарадоў. Высокія дамы, шмат сквераў, паркаў і бульвараў.

У горадзе 365 тысяч насельніцтва, з іх 182 тысячы — рабочых. З ростам горада расце і яго культура. Толькі ў адным горна-металургічным інстытуце вучыцца 10 000 студэнтаў, ёсць педагагічны інстытут, 8 сярэдніх навучальных устаноў, 19 тэхвучылішчаў, 60 школ і г. д. Зараз кожны трэці гараджанін вучыцца. За гэтую пяцігодку агульная адукацыя кожнага працоўнага жыхара дарасце да дзесяці класаў.

МАГНІТАГОРСК пачынаецца з гары Магнітнай, уласна, з некалькіх гор, размешчаных крыжам. Гара Атач, прыступчатая цяпер ад кар'ераў. Злева — Узянка, справа — Падатач. Легенды і былі гары хаваюцца ў сівізне вякоў. Тысячы народаў асядала тут, тысячы орд пракаціліся па гэтых рудых схілах. Першае ўпамінанне аб Магнітцы ёсць у «Падарожжах» Плана Карпіні ў 1245 годзе. У іх ён гаворыць аб тым, што далёка на поўначы ёсць гара з магніт-каменя, якая прыцягвае жалезныя рэчы. Казка? Ды не. **Праўда** за казачнай сярэдневяковай дэкарацыяй.

...Руда гары Магнітнай спраку веку была аддадзена дажджам, сонцу і вятрам. Тое, што здабываць яе лёгка, што яна будзе танная, людзі зразумелі дужа даўно. Нездарма да славян яе стагоддзямі здабывалі башкіры.

У 1752 годзе два прадпрымальныя чалавекі, Іван Цвёрдышаў са сваім зяцем Іванам Мясніковым, падалі ў Арэнбургскую губернскую канцылярыю прашэнне на дазвол здабычы руды з гары Магнітнай. Так узнік Беларэцкі жалезаробчы завод у ста кіламетрах адсюль. Руду здабывалі толькі летам. Кожную вясну сюды цягнуліся мужчыны, жанчыны і нават дзеці, каб на кожным пудзе здабытай імі руды зарабіць свой пятак. Зімою санным шляхам нарыхтаваную руду везлі ў Беларэцк.

З развіццём чорнай металургіі ўзрастала хціўная цікаўнасць да гэтага дармавога багацця, да гэтага феномена прыроды. Не аднойчы завязваліся шматгадовыя цяжбы, узнікаў торг, нават міжнародны.

Японцы прапаноўвалі за гару Магнітную 25 мільёнаў рублёў срэбрам. Падчас калчакаўшчыны амерыканцы намерваліся адкрыць тут сваю канцэсію.

Сапраўдная гісторыя гары Магнітнай пачалася ў савецкі час, калі вясной 1918 года Вышэйшы Савет народнай гаспадаркі аб'явіў конкурс на распрацоўку лепшага праекта адзінагаспадарчага аб'яднання Урала-Кузбас, якое забяспечыла б лепшае выкарыстанне руды Урала і вугалю Кузбаса.

Першыя геолагаразведвальныя партыі дабраліся сюды конна ў 1926 годзе. Яны ўдакладнялі прыродныя запасы руды, яе якасць. У той жа час геадэзісты вышуквалі пляцоўкі для будаўніцтва завода. А да Магніткі са станцыі Карталы пацягнулася нітка чыгункі.

Гісторыя Магніткі — пачатак індустрыялізацыі краіны. Гэта, так бы мовіць, увасабленне курса, узятага партыяй на XIV з'ездзе.

Прыйшоў першы цягнік. Была пастаўлена першая палатка (на тым месцы цяпер стаіць помнік). Пачалі прыбываць людзі і будаўнічыя матэрыялы. Гэта здарылася 30 чэрвеня 1929 года.

З усіх канцоў краіны ехаў народ. Магнітку будавалі 47 нацыянальнасцяў. Дужа многа было сярод іх беларусаў. Значная доля іх і зараз жыве і працуе тут... Ехала пераважна моладзь. Загрукалі кіркі, ламы, рыдлёўкі.

Так, спачатку толькі яны. Вышэйшай «механізацыяй» была так званая «грабарка» — аднавосная цялежка на высокіх колах. У сярэдзіне 1930 года прыбыў напачатку іншаземны экскаватар, ды й то першы час людзі не надта ведалі, як да яго прыступіцца.

Так пачыналася. І ім было цяжка, гэтым людзям. Але нездарма адзін з лепшых дакументалістаў свету, рэжысёр Іёрыс Івенс зняў аб іх славуты свой фільм «Песня пра герояў».

...У начным змроку палалі тысячы кастроў. Магло б здацца, што вярнуліся часы Пугачова, які са сваім станам стаяў тут калісьці пад станіцай Магнітнай (па мясцовых паданнях менавіта яна паслужыла прататыпам крэпасці Белагорскай з «Капітанскай дачкі» А. Пушкіна).

Здавалася, што нічым не зрушыць гэты адвечны сон. Але ўжо 1 ліпеня 1931 года была закладзена першая домна. А першыя злiткі чыгуну яна выдала ў рэкордны тэрмін — роўна праз 19 месяцаў, 1 лютага 1932 года. Другую домну будавалі камсамольцы, і гэта была першая ў краіне камсамольская ўдарная будоўля.

Спачатку праектам прадугледжвалася 660 тысяч тон сталі ў год. Пасля праектная магутнасць была павялічана да мільёна тон. Раслі патрэбы ў метале, расла і вытворчая моц прадпрыемства. Яе вырашылі давесці спачатку да 2,5 мільёна тон сталі ў год, а пасля — да чатырох.

ВАЕННЫЯ гады выклікалі паскоранае развіццё металургіі. Каб перамагчы, трэба было напружыць усе сілы. І Урал іх напружыў. Фронту былі патрэбны новыя маркі сталі, асабліва сталі бранявой, якая да вайны выплаўлялася толькі ў маламагутных мартэнаўскіх і электраплавільных печах. Ужо вечарам 22 чэрвеня 1941 года было вырашана выплаўляць бранявую сталь у вялікагрузных мартэнах. Але выплаўка — гэта яшчэ не ўсё. Сталь трэба было пракатаць, а на Магнітцы спецыяльных станаў не было. Такі стан знаходзіўся ў Марыупалі. Чакаць, пакуль яго дэмантуюць і завязуць сюды, было проста немагчыма. І намеснік галоўнага механіка камбіната Мікалай Андрэевіч Рыжэнка ўносіць смелую прапанову: выкарыстаць для гэтай мэты айчынны блюмінг, які толькі што, за нейкія пару месяцаў да 22 чэрвеня, уступіў у строй. Задачу вырашылі бліскуча — за месяц і сем дзён.

Дырэктарам камбіната ў той час ужо трэці год быў Рыгор Іванавіч Носаў, адзін з буйнейшых знаўцаў чорнай металургіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Зараз горна-металургічны інстытут носіць яго імя. Два ягоныя сыны, Дзмітрый і Канстанцін, скончыўшы гэты інстытут, пайшлі па слядах бацькі. Дужа многа давялося працаваць гэтаму чалавеку ў гады вайны.

Вось дзве-тры даты эпапеі Марыупальскага пракатнага стану. 4 жніўня 1941 года пачаўся ў Марыупалі яго дэмантаж. А 15 кастрычніка 1941 года на ім пракаталі ля падножжа Магнітнай першы бранявы ліст. Уявіце сабе: адна толькі станіна пракатнага стану важыла 65 тон. Каб устанавіць гэткую махіну, не было нават спецыяльных маставых кранаў. Кіраўнікі будоўлі вырашылі ўжыць два 15-тонныя краны, аснасціўшы іх спецыяльным прыстасаваннем. Была сіверная восень з рэзкім халодным дажджом, была слата, хлюпкая гразь. Але ўсё трэба было рабіць як найхутчэй. Становішча на франтах было адчайнае. І тады хлюпкай золкай ноччу рабочыя вырашылі рызыкнуць. Станіну ўстанавілі адным кранам, але і ў гэтым кране выявіўся такі самы запас трываласці і моцы, як і ў тых, што працавалі тут.

Кіраўніком гераічнага мантажу, між іншым, быў ураджэнец Беларусі Зіновій Міхайлавіч Міхлін, цяпер заслужаны будаўнік РСФСР, начальнік мантажнага ўпраўлення трэста «Усходметалургмантаж».

У часы вайны кіраваў трэстам «Магнітабуд» цяперашні намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР Веніямін Эмануілавіч Дымшыц.

Гераічная зямля — гераічныя ўчынкі. Сярод магнітагорцаў, удзельнікаў вайны, 29 Герояў Савецкага Саюза, 26 чалавек на камбінаце — Героі Сацыялістычнай Працы, у тым ліку дзве жанчыны: машыніст электравоза Ніна Іванаўна Пушкарская і Аляксандра Аляксееўна Цыба, машыніст-аператар пракатнага стана.

Але яны не адны. Праца кожнага чалавека на Магнітцы ёсць подзвіг. І вось доказ гэтаму.

Гады вайны — ордэны Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Год 1970 — камбінату прысвоена імя У. І. Леніна, юбілейная Грамата і сцягі.

Год 1971 — другі ордэн Леніна.

Звыш трох гадоў камбінат з квартала ў квартал па выніках Усесаюзнага спаборніцтва ўтрымлівае пераходны Чырвоны сцяг Савета Міністраў СССР і ВЦСПС. Традыцыі Носава, які памёр у 1951 годзе, жывыя і сёння.

— У пасляваенныя гады камбінат нібыта перажыў другое нараджэнне, — расказвае дырэктар ММК Андрэй Дзмітрыевіч Філатаў. — Вытворчыя магутнасці ўзраслі за гэты час у пяць з лішнім разоў. Нашу прадукцыю ведаюць ад Находкі да Брэста і шмат у якіх замежных краінах.

Шмат яшчэ чаго цікавага даведаліся мы ад Філатава. Аб тым, што завод плавіць чыгун, сталь, робіць вогнеўпорныя вырабы, катае пракат, здабывае вапняк, даламіт, з'яўляецца манапалістам па вырабу белай бляхі для кансервавай прамысловасці (50 працэнтаў саюзнага яе вырабу), выпускае яшчэ шмат чаго, што зусім нядаўна мы куплялі за мяжой.

І яшчэ аб тым, што асноўныя фонды камбіната — 1350 мільёнаў рублёў, што прыбытак за пяцігодку склаў каля 2 мільярдаў.

Гэта дазваляе праяўляць больш клопату да чалавека, таму што, урэшце, і гігант камбінат, і навакольныя заводы — дзеля людзей. Камбінат не толькі будуе жылыя дамы, пансіянаты, бальніцы, пашырае зоны адпачынку, але і клапоціцца аб тым, каб чалавек быў добра апрануты і накормлены.

Зіма тут суровая. Дзеці раней выраcталі тут, не ведаючы, што такое яблык, свежы агурок, памідоры.

— У нас ёсць падсобная гаспадарка-саўгас, — сказаў нам тав. Філатаў. — 27 тысяч гектараў зямлі, 5 тысяч буйной рагатай жывёлы, 2 тысячы дойных кароў, 6 тысяч свіней.

Дзівам для Урала быў вырашчаны магнітагорцамі 500-гектарны сад, які летась даў 5 тысяч тон садавіны. Падсобная гаспадарка дае для рабочых сталовак свежую гародніну, садавіну, сокі.

...Магнітагорскі камбінат вырас ля гары Магнітнай. Спачатку думалі, што мясцовай руды хопіць яму на 120 гадоў. Але час, вайна і ўзрастаючыя

# ГАРЫ МАГНІТНАЙ

тэмпы вытворчасці распарадзіліся па-свойму. Зараз на месцы гары каласальны кратэр. Уявіць гэта няцяжка: у вайну кожны другі танк і кожны трэці снарад быў з металу гары Магнітнай. На сподку гэтага велічэзнага «амфітэатра» працуюць і сёння экскаватары, па яго «ярусах»-гарызонтах снуюць і сёння электрычкі, вывозячы руду. Але яе ўжо не хапае. Той жа Носаў даўно прадбачыў гэта, і па яго ініцыятыве пачалася разведка Сакалова-Сарбайскага месцанараджэння руд за 50 кіламетраў ад Магніткі. Зараз руда ідзе на камбінат адтуль і, нават, з Курскай магнітнай анамаліі. І ўсё ж **пакуль** метал Магніткі самы танны ў краіне. Вугаль сюды ідзе з Караганды і Кузнецка, газ — з Бухары, за 2,5 тысячы кіламетраў. Цяпер метал на Магнітцы плавяць газам. Пра гэта Носаў марыў яшчэ тады, калі газ не гарэў нават у маскоўскіх кватэрах.

НА РОДНАЙ нашай беларускай зямлі ёсць гарады-юнакі. Салігорск, Наваполацк, Светлагорск і Белазёрск, Новалукомль. Усе яны таксама пашыраюцца, растуць, робяцца індустрыяльна магутнымі. І мы ведаем чаму. Не было б Магніткі і першых пяцігодак, — не было б і сённяшняга іх росту.

...Мы стаялі ля помніка першым будаўнікам-камсамольцам. Дзяўчына і хлопец. У руках рыдлёўка і кірка. Гэтымі няхітрымі інструментамі, пад ветрам і даждджом яны закладвалі падмурак пад сённяшнія нашы гарады...

Помнік першай палатцы. Мабыць, адзіны такі на нашай зямлі. На пастаменце ляціць парус палаткі. Праз яго, у тумане, далёка — лес заводскіх труб. Побач з палаткай — рука трымае на далоні глыбу руды. Вакол пастаменту словы выдатнага песняра Магніткі Барыса Руч'ёва: «Мы жили в палатке с зелёным оконцем, промытой дождями, просушенной солнцем, да жгли у дверей золотые костры на рыжих каменьях Магнитной горы...».

Магнітабуд пачынаўся з плаціны. Патрэбна была вада. 72 рабочыя дні ішло будаўніцтва шматарачнай жалезабетоннай плаціны даўжынёю больш за кіламетр і вышынёю ў 10 метраў. З таго ж бетону, што лёг у аснову плаціны, мясцовым скульптарам-рабочым быў адліты і помнік Леніну. Адзін з першых ..

Вецер. Туман. Глыбокі снег. Незамярзаючыя тут воды Урала. Гэта адстойнікі камбіната. Вада праз фільтры зноў ужываецца ім. І тут яна такая чыстая, што ў ёй ходзіць рыба. Над ёй плыве пара, як над адкрытым зімовым басейнам...

Не так даўно прыязджаў у Магнітагорск архітэктар з ГДР Эрнест Май. Гэта па яго праекце закладваўся тут першы жылы квартал. Над адным з дамоў — металічная шыльда: «Тут 5 чэрвеня 1930 года ў прысутнасці 14 000 будаўнікоў закладзены падмурак першага капітальнага дома горада Магнітагорска...»

...Уяўленне пра Магнітагорск было б няпоўным, каб мы сказалі толькі пра камбінат. Вядома, камбінат гэта вялізнае дрэва, якое вырасла на гары Магнітнай. Але кожнае дрэва не бывае без галін. Магутнае дрэва — магутныя і галіны. Гэтыя магутныя галіны — прадпрыемствы, на якіх мы пабывалі: калібровачны завод, метызна-металургічны (дарэчы, за два тыдні ён робіць тое, што наш Рэчыцкі, таксама метызны, робіць за год).

У той час, калі мы былі ў Магнітагорску, метызна-металургічны завод узнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Адным з першых меў гонар ад імя нашай дэлегацыі павіншаваць дырэктара завода Веніяміна Навумавіча Гутніка з узнагародай, якую атрымаў завод, Янка Брыль.

...Усё гэта каласальна, велічна і захапляюча! І рака лавы ў доменным цэху з феерверкам сініх, сляпучых зорак, што ўзлятаюць над ёй, і пракатныя лісты такой тонкасці, што калі ўпадзе волас — на іх застаецца след; і сталь, што так агніста, туга і ўпарта б'е з мартэнаў у паддоны разлівачных каўшоў; і вогненныя змеі, што паслухмяна звіваюцца ў кляшчах вальцоўшчыкаў. І магутнейшы прэс у цэху біметалаў, пад ціскам якога алюміній, нібы паста з цюбіка, выцягваецца ў бясконцую нітку дрота. І, у трэцім лістапракатным цэху, бясконцы серабрысты пояс, які імкліва ляціць па роліках і ў які можна глядзецца, нібы ў люстэрка. І металічнае ткацтва, куды больш тонкае, чым звычайнае. І, вядома ж, магутныя, сардэчныя людзі, якія робяць усё гэта, якія не губляюцца на фоне гэтых цыклапічных спаруд, на фоне гэтых гіганцкіх і дакладных машын.

Пра людзей Магніткі можна гаварыць і гаварыць. Прыемна, напрыклад, даведацца, што касманаўт Павел Паповіч скончыў Магнітагорскае прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча.

У гаркоме партыі мы глядзелі старую кінахроніку Магніткі. Спачатку стэпы, кавыль, дрофы, горныя масівы, каменныя ілбы паводдаль. Пасля рыдлёўкі, кіркі, грабаркі... Здавалася, што гэтыя людзі ў сціплай, нават беднай вопратцы ніколі не адолеюць несакрушальнае, непрыступнае, гіганцкае сэрца Магніт-гары. І аднак яны адолелі. І сярод іх быў Аляксей Лявонцевіч Шацілін, чалавек, які плавіў першы чыгун Магніткі. Цяпер ён старшы майстар доменнага цэха, обер-майстра, як кажуць тут. Яму 67. Але ён і не думае аб адпачынку. Наадварот, акрамя працы ў сваім цэху, ён памагаў задуваць доменныя печы ў Аўстрыі, Чэхаславакіі і Індыі.

А вось разліўшчык старэйшага другога мартэнаўскага цэха (у ім была выдадзена першая Магнітагорская плаўка) Уладзімір Сяргеевіч Закандаеў. Працуе тут з васемнаццаці год. Як рабочы ўдзельнічаў у занальнай нарадзе пісьменнікаў Урала, Сібіры, Паволжа і Далёкага Усходу. Як ён сам расказваў, спачатку разгубіўся ад успышак бліцаў. Але, відаць, прамова яго была змястоўная, калі лягла ў аснову артыкула, надрукаванага ў першым нумары часопіса «Вопросы литературы» за гэты год. Чытае ён «па магчымасці», але мы адчулі, што чытае ён многа, любіць літаратуру.

Нам было асабліва прыемна, што сярод гэтых людзей шмат нашых землякоў. Адзін з іх—начальнік пятага лістапракатнага цэха Міхась Рыгоравіч Ціханоўскі, родам з Клімавіч— нібы далучыў нас да пачэснай прафесіі металурга, уручыўшы рабочыя каскі. Другі наш зямляк і таксама начальнік цэха, на гэты раз трэцяга лістапракатнага, Фёдар Барысавіч Васільеў, родам з Чэрыкава, быў партызан, партызанскія шляхі якога не раз перакрыжоўваліся са шляхамі яшчэ аднаго партызана, члена нашай дэлегацыі, Алеся Адамовіча. Фёдар Барысавіч сардэчна прымаў нас у рабочым кабінеце і дома.

Сустрэў свайго былога сябра па школе і Іван Навуменка. Гэта быў Ісак Сямёнавіч Зак, памочнік дырэктара метызна-металургічнага завода.

Мы часта выступалі ў заводскіх цэхах. Нас цёпла прымалі рабочыя. І вось, пасля аднаго з выступленняў, на калібровачным заводзе падышоў да нас майстар цэха таварыш Сільчанка. Ён спытаў пра Івана Шамякіна, сказаўшы, што першы раман яго, «Глыбокую плынь», чытаў яшчэ ў рукапісе. Выявілася, што яны разам вучыліся.

Але не толькі землякі — людзі самых розных нацый прасілі нас чытаць вершы па-беларуску і прымалі іх шчыра.

Выступалі мы таксама ў гасцінных швейнікаў, перад студэнтамі і вучнямі (дзецям асабліва спадабаўся наш беларускі казачнік Васіль Вітка). Выступалі ў рэдакцыі «Магнітагорскага рабочага» (тут У. Караткевіч сустрэў земляка, настаўніка з Оршы), па тэлебачанні, у цудоўных дамах адпачынку (мяккія ўвалы лясістых башкірскіх гор, на рыпучым снезе сінія цені ад дрэў, незварушлівая цішыня мармуровых бяроз і кашлатых лістоўніц) і ў бібліятэках. Загадчыца бібліятэкі Левабярэжнага Дома культуры Тамара Аркадзеўна Смірнова і бібліятэкар Раіса Сямёнаўна Красная азнаёмілі з багацюшчымі фондамі бібліятэкі, з яе рэдкімі кнігамі.

Дзе б мы ні былі, мы пераконваліся, што беларускую кнігу тут чытаюць і любяць.

На развітанні ў гаркоме партыі Янка Брыль ад імя беларускіх пісьменнікаў сказаў:

— Нас уразіў камбінат, уразілі яго велічныя цэхі, магутныя іншыя заводы, уразіў сам саракагадовы горад. Але перш за ўсё нас уразілі людзі... Сярод іх было і шмат нашых землякоў. Гэта прыемна — прыехаць далёка і ўбачыць, што нашы людзі на вышыні... **Мы хацелі б падзякаваць тым таварышам, якія так чула займаліся з намі.**

...Дэлегацыі нашай былі ўручаны адрасы Саюзу пісьменнікаў ад Магнітагорскага гаркома КПСС і гарвыканкома, ад кіраўніцтва ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга метызна-металургічнага завода і ад калектыву сталеплавільнага мартэнаўскага цэха № 2 ММК, у якіх выказана шчырая падзяка за выступленні перад працоўнымі Магніткі.

Падарожжа наша было напружаным, але змястоўным. Ці не малая доля ў гэтым — клопаты інструктара Чэлябінскага абкома прафсаюзаў Анны Ігнатаўны Лягоцінай, якая ўсюды суправаджала нас.

МАГНІТАГОРСК па праву называюць своеасаблівай літаратурнай Мекай. Пісьменнікаў сюды вабіць жывая цікавасць да спраў магнітагорцаў. Яшчэ ў гады першай пяцігодкі Магнітабуд стаў сімвалам індустрыялізацыі краіны. І пісьменнікам сваімі вачыма хацелася ўбачыць, як творыцца цуд, як закладваецца падмурак сацыялізма.

Адным з першых ярка і вобразна паказаў гераізм будаўнікоў Магніткі вядомы публіцыст, рэдактар «Нового мира» Вячаслаў Палонскі, які апублікаваў нарыс «Магнітабуд».

У 1931—1932 гадах у Магнітагорску жылі такія вядомыя савецкія пісьменнікі, як Аркадзь Гайдар, Валянцін Катаеў, Ісідар Шток, Яўгеній Фёдараў, Мікалай Багданаў, Аляксей Малышкін, Яфім Зазуля, Дзям'ян Бедны.

Да лета 1930 года адносіцца ўтварэнне ў Магнітагорску літаратурнага аб'яднання «Буксір», які пазней перайменавалі ў літбрыгаду імя Максіма Горкага. Арганізатарам і кіраўніком гэтага аб'яднання быў малады ўральскі паэт Васілій Макараў. Літаратурнае аб'яднанне выпускала свой часопіс, які называўся першапачаткова «Буксір», а пазней «За Магнітабуд літаратуры».

Першымі з членаў літаратурнага аб'яднання заявілі аб сабе маладыя паэты Барыс Руч'ёў, які стварыў цыкл вершаў «Другая Радзіма», і Аляксандр Варашылаў—аўтар дзвюх паэм «Першая перамога» і «Песня аб сусветным рэкордзе». Да гэтага ж перыяду адносіцца пачатак творчасці паэтаў Міхаіла Люгарына, Канстанціна Мурзідзі, Марка Гросмана, Аляксандра Лазнявога, Людмілы Таццянічавай, Якава Вохменцава. У прозе спрабавалі свае сілы маладыя рабочыя Аляксандр Аўдзеенка, Сяргей Фёдараў (Каркас), Яўгеній Вараб'ёў, журналісты Сямён Нарыньяні, Аляксандр Завалішын і многія іншыя. Большасць з іх сталі прафесіянальнымі пісьменнікамі, членамі Саюза пісьменнікаў СССР.

Пафас стварэння, які панаваў на Магнітабудзе, натхняў маладых літаратараў на стварэнне яркіх і цікавых твораў.

Знаёмства пісьменнікаў з Магніткай пакідала ў іх творчасці прыкметны след. Так, на матэрыяле Магнітабуда В. Катаеў стварыў раман «Час, наперад!», І. Шток—п'есы «Зямля трымае» і «Вагон і «Марыён», А. Аўдзеенка—раман «Я люблю», Н. Багданаў—раман «Пленум сяброў», А. Малышкін—раман «Людзі з захалусця».

Вялікую цікавасць да Магнітабуда праяўлялі і некаторыя замежныя пісьменнікі. Так, у 1930 годзе ў Магнітагорску пабывалі польскі паэт і публіцыст Станіслаў Стандэ, а таксама паэт Уладзіслаў Бранеўскі. С. Стандэ пад уражаннем убачанага стварыў «Паэму пра Магнітабуд», выдадзеную ў Маскве ў 1933 годзе. У. Бранеўскі прысвяціў Магнітабуду верш «Размова з Янам».

За будаўніцтвам першага савецкага гіганта чорнай металургіі вельмі ўважліва сачыў Аляксей Максімавіч Горкі. У сваім вядомым пісьме «Рабочым Магнітабуда і іншым», апублікаваным у «Правде» ўлетку 1931 года, А. М. Горкі пісаў: «Ваша сіла— несакрушальная, таварышы, вы давялі гэта ў грамадзянскай класавай бітве і вы штодзень даводзіце гэта сваёй гераічнай працай. Ваша сіла — несакрушальная і яна забяспечвае вам перамогу над усімі перашкодамі. Вы павінны ўсё перадолець і пераадолееце. Моцна націскаю магутныя вашы лапы».

Пазней, звяртаючыся да начальніка Магнітабуда і агітпропа Магнітагорскага гаркома партыі, А. М. Горкі пісаў:

«Вялікі вопыт гераічнага Магнітагорскага будаўніцтва, у якім удзельнічаюць дзесяткі нацыянальнасцяў СССР, тысячы рабочых-ударнікаў, сотні спецыялістаў, мае сусветна-гістарычнае значэнне».

Не паслаблялася пісьменніцкая цікавасць да Магнітагорска, да спраў яго працаўнікоў і ў наступныя гады. У розны час бывалі і падоўгу жылі тут Аляксандр Фадзееў, Эмануіл Казакевіч, Уладзімір Папоў, Марыэта Шагінян, Віктар Шклоўскі, Яраслаў Смелякоў, Яўгеній Далматоўскі, Мікалай Задорнаў і многія іншыя. Вялікія творчыя планы звязвалі з Магніткай А. Фадзееў і Э. Казакевіч.

Творчая атмасфера Магніткі працягвае нараджаць новых здольных літаратараў. У пасляваенныя гады тут сталі вядомымі пісьменнікамі празаікі Станіслаў Мялешын, Мікалай Воранаў, паэт Уладзілен Машкоўцаў. У Магнітагорску і зараз працуе даволі буйнае літаратурнае аб'яднанне, у якім прадстаўлены маладыя здольныя паэты—тэхнік Рыма Дышаленкава, рабочыя-металургі Віктар Паўлаў, Юрый Калеснікаў і іншыя. Многа сіл і часу аддае пачынаючым старэйшына літаратурнага цэха Магніткі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Барыс Аляксандравіч Руч'ёў, Міхаіл Міхайлавіч Люгарын і Аляксандр Мікітавіч Лазнявы, які зноў звязаў свой лёс з Магнітагорскам.

І ЗНОЎ крыху гісторыі.

У 1931 годзе між Чэлябінскам і Магнітагорскам зусім не было агнёў. Пасвіліся ў палынных стэпах і па схілах пакатых гор грывастыя дзікія табуны. На шляху ляжаў толькі адзін маленькі Троіцк з яго лабазамі.

Зараз тут усё заліта агнямі. Акіян агнёў.

І аднак не трэба думаць, што чалавеку тут зараз зусім лёгка. У адзін з дзён нашага перабывання тут на горад абрушыўся шалёны буран, неадменны сакавіцкі буран, які ў башкіраў мае нават сваю назву «Укман-Тукман». Відовішча было страшнаватае. Выла, круціла, несла. Хадзілі адны аўтобусы. Людзям давялося праявіць немалую вытрымку.

Толькі адзін прыклад. На камбінаце звыш за 400 кіламетраў пад'язных пуцей. Снег заляпіў стрэлачныя пераводы, пагражаў вывесці са строю аўтаблакіроўку, парушыць пагрузачна-выгрузачны рытм. На пуці выйшлі людзі. Выйшлі пасля змены. Цэлую ноч яны змагаліся са стыхіяй. У рабоце камбіната не было перабояў.

...МЫ СТАІМ над Магнітнай гарой. Так, **над** гарою, бо гары няма. Тыя 420 мільёнаў тон, якія яна захоўвала, амаль вычарпаныя. Пад намі гіганцкі кратэр з рабрыстымі бакамі, падобны на месяцавы. Амаль кіламетр у дыяметры. Пад нашымі нагамі — строма ў сто метраў глыбінёй. Адтуль увесь час адкачваецца вада, іначай катлаван захлынуўся б. Вада тая чысцейшая, смачная, як з крыніцы.

Нехта з нас, гледзячы ў гэтую зеўру, сказаў:

— Тут быў пахаваны фашызм.

І гэта так. Ён быў пахаваны ў гэтым кратэры сплавам з магнітагорскай сталі і ўсенароднай крыві.

І ёсць нейкі глыбокі, крыху трагічны і горды, высокі сімвал у тым, што скульптар Я. Вучэціч ляпіў свайго воіна-вызваліцеля, таго самага, што стаіць зараз у Трэптаў-парку, трымаючы дзіця і меч, што гэтага воіна, які рассек свастыку і ўратаваў будучыню, скульптар ляпіў таксама з магнітагорца, з І. С. Адарчанкі. То паглядзіце на гэтае абліччa.

...У Гітлера быў план. Калі ягоныя войскі дойдуць да Урала, будучай мяжы імперыі,—паставіць на самых высокіх вяршынях Уральскіх гор трыццаціметровыя статуі каменных салдат з аўтаматамі і мячамі. Такія статуі былі ўжо высечаны. І яны маглі б стаяць на вяршынях і глядзець на ўсход каменнымі вачыма, каб не наш народ.

Каб не наша кроў і не наша браня.

Нам здаецца, што з апошняй руды гары Магнітнай людзі адліюць і паставяць над кратэрам былой гары велічную фігуру рабочага чалавека. Чалавека, які трымае на плячах зямны шар.

Магнітагорск—Мінск.

# СВЯТА НАРАДЖАЕЦЦА Ў БУДНІ

**Расказ дэлегата XXIV з'езда КПСС, дырэктара ордэна Леніна і ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі Мінскага аўтамабільнага завода І. М. ДЗЁМІНА.**



*«Давёсці выпуск аўтамабіляў у 1975 годзе да 2—2,5 мільёна штук. Павялічыць выпуск вялікагрузных аўтамабіляў і на іх базе аўтапаяздоў высокай грузападымальнасці»...*

**З праекта Дырэктыў XXIV з'езда КПСС.**

ВІДАЦЬ, такая ўжо асаблівасць чалавечай памяці, што цяжкое, кепскае з гадамі адыходзіць на другі план, а застаюцца ў сэрцы радасныя падзеі. Вось і мне, калі я ўспамінаю гісторыю нашага завода, а, значыць, і свой пасляваенны шлях, успамінаецца перш за ўсё дзень 1-га лютага 1948 года.

Я быў у той час галоўным энергетыкам завода. І дзень гэты быў для нас, энергетыкаў, сапраўдным святам: была пушчана першая заводская турбіна, якую мы змантыравалі за пяцьдзесят адны суткі. Гэта была першая наша перамога, першае свята, народжанае ў цяжкіх буднях. Мы ж пачыналі літаральна з нуля! Завод быў без цяпла, без святла, і горад нічым не мог нам дапамагчы—ён сам у тыя часы сядзеў на жорсткім рэжыме эканоміі ўсяго, што патрэбна для жыцця і працы. Яшчэ паўсюды стаялі руіны—вайна толькі тры гады, як скончылася...

Ну, а пасля першай нашай турбіны мы сваімі сіламі набудавалі і змантыравалі заводскую электрастанцыю. Складаная была справа, але затое цікавая!.. І для ўсіх, і для мяне. Для мяне, можа, асабліва.

Я меў дыплом інжынера-механіка, але стажу і практыкі ў мяне не было. Была другая практыка — партызанская. Я ў час Вялікай Айчыннай камандаваў партызанскім атрадам.

Завод для мяне пачаўся амаль адразу пасля таго, як я зняў зброю: у верасні 1944 года мяне прызначылі на пасаду галоўнага энергетыка.

Спачатку мы не энергетыкай займаліся. Шукалі і падбіралі кадры, аднаўлялі майстэрні па рамонце тэхнікі, з разрухай змагаліся, розную чорную работу рабілі. І вось—першая турбіна! Сэрца завода забілася!.. Таму так і запомніўся той дзень. А на Кастрычніцкія святы таго ж года па вуліцах сталіцы прайшлі сем самазвалаў «МАЗ-205». Так што, як бачыце, свята для нас ішло за святам.

Але, зразумела, папярэднічалі ім будні. Складаныя будні, часам суровыя. Будаваўся ж не толькі завод — будаваўся новы быт, нараджаўся новы для рэспублікі атрад рабочага класа, і адбывалася гэта ва ўмовах пасляваенных цяжкасцей, калі многага не хапала—ні жылля, ні электрычнасці, ні вады—водаправодная сетка была слабая... Клопатаў было хоць адбаўляй, і вялікіх і дробных, хоць, бадай, у вялікай справе і дробязь вырастае ў значную праблему.

Вялікіх намаганняў патрабавала арганізатарская работа, накіраваная на тое, каб з самых розных людзей, што прыехалі на завод з розных куткоў Беларусі і краіны, стварыць адзіны згуртаваны калектыў, адну сям'ю. Трэба было выхоўваць моладзь, вырошчваць уласных спецыялістаў, бо ад гэтага залежала ўсё. Асаблівую адказнасць за ўвесь калектыў я адчуў, калі партыйны сход абраў мяне сакратаром партыйнай арганізацыі завода. А з 1959 года—я яго дырэктар. Гэта і вялікі гонар, і яшчэ большая адказнасць. Адказнасць і за кожны, як кажуць, вінцік, і за кожнага чалавека.

Але я зноў аб нашых святах—сказаў жа, што яны мне помняцца больш, чым цяжкасці. Яшчэ адным такім святам, якое ярка жыве ў памяці, быў мітынг, прысвечаны выпуску першага аўтамабіля маркі «МАЗ-500». Было гэта 16 сакавіка 1965 года і азнаменавала сабою вельмі важную акалічнасць: «МАЗ-500» паклаў пачатак новаму сямейству машын.

І з гэтага дня пачалося «далёкае плаванне» альбо, больш дакладна, «вялікі рэйс».

31 снежня 1965 года з канвеера сышоў апошні самазвал маркі «МАЗ-205». Гэта менавіта ён стаіць цяпер у нашым заводскім скверы, і для мяне ён не проста машына, нерухомы метал, а жывая істота, жывы сведка слаўнага шляху рабочых-аўтазаводцаў, жывое ўвасабленне іх працоўнай доблесці, аддачасці справе, умельства.

«МАЗ-205»—частка гісторыі айчыннага аўтамабілебудавання наогул. Гэта з ім звязаны дзесяткі кандыдацкіх дысертацый, гэта ён, так сказаць, нарадзіў доктарскія дысертацыі Ю. М. Кокіна і Г. М. Якаўлева—вучоных, якія ўдасканальвалі па ім сваю тэхнічную думку.

Ішоў час, і ўчарашні нованароджаны набіраў сілу, распраўляў крылы. У жніўні 1969 года за паспяховае выкананне сямігадовага плана заводу быў уручаны ордэн Леніна. За поспехі ў выкананні пяцігодкі, а таксама за мадэрнізацыю машыны «МАЗ-500» завод быў узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, за стварэнне «МАЗ-500» 11 канструктараў нашага завода ўдастоены Дзяржаўнай прэміі СССР, годам раней за поспехі ў айчынным машынабудаванні Дзяржаўнай прэміі Савецкага Саюза быў удастоены і я. Аднак я добра разумею, што мае заслугі—гэта заслугі калектыву рабочых, інжынераў, тэхнікаў, усіх, хто аддаў заводу сваё жыццё.

Я назваў нямала радасных падзей, прыпомніў нашыя слаўныя святы. Час сказаць і пра цяжкасці, пра тое, што патрабуе вырашэння. Завод наш рэканструюецца, але, нягледзячы на тое, што рэканструкцыя не завершана, мы ўжо перакрылі праектную магутнасць. Летась краіна атрымала аўтамабіляў з мінскай маркай больш, чым было прадугледжана.

Натуральна, пры такіх тэмпах росту ўзнікаюць складаныя праблемы, узнікаюць «цяжкасці росту». Вось адна з іх: у нас не хапае вытворчых магутнасцей, асабліва ў прэсавым і нарыхтоўчым цэхах, у ліцейным і ў кузні. У сувязі з тым, што не хапае месца, мы вымушаны шэраг дэталей з коўкага чыгуну перавесці на сталь. А гэта павялічыла працаёмкасць работ і сабекошт...

Праўда, у некаторых вытворчых працэсах удалося панізіць і працаёмкасць і кошт, што дапамагло нам, так сказаць, звязаць канцы з канцамі, ураўняць увогуле выдаткі на вытворчасць у цэлым, але гэта не радыкальны выхад са становішча.

«Вузкае» месца на заводзе, прычым, вузкае не ў пераносным, а ў са-

---

*НАРЫС*

# МІХАЙЛАЎНА



ЯНА Б МАГЛА сесці ў прыгарадны аўтобус, зрабіць перасадку ў Слуцку і даехаць да Круглага за тры гадзіны. Але прыпомніла, што туды напрасткі ёсць лясная дарога. Няхай усё будзе так, як калісьці, у залатую пару яе маладосці: лёгкія сані, падсцілка з духмянага мурагу, снежныя пырскі ў твар з-пад капытоў і карагод бяроз абапал дарогі. Яна — адпускніца. Першы раз за два гады выбралася. Давалі пуцёўку ў дом адпачынку — адмовілася. Зіма, свая гаспадарка звязвае, сын-дзесяцікласнік цэлы дзень у школе. Няхай іншым разам. А вось пабыць у мясцінах, дзе прайшла маладосць, захацелася: з гадамі яны вабяць нас з нейкай неадольнай сілай.

Цялюхкае конік па вузкай лясной дарозе. Пераклікаюцца над галавой сініцы. Ужо мінула Вольга Міхайлаўна Захарэвіч свае родныя Папоўцы. Можа ўспомніла сябе пятнаццацігадовай дзяўчынкай, якая разам з дарослымі на лузе зграбае калгаснае сена і пяе аб каханні?

> Пасею гурочкі...
> Не бачыла я мілага
> Усе тры вечарочкі...

Лунае над сенажаццю працяжная песня і сярод галасоў яе, Вольгі, звонкі, пявучы, чысты. «Быць табе, дзеўка, спявачкай, як Русланава», — гаварылі жанчыны.

Яна і вучылася добра, сёмы клас з пахвальнай граматай скончыла.

Эх, каб не вайна, не Гітлер праклятты! Давялося ў шаснаццаць гадоў развітвацца з юнацтвам (маці баялася, каб дачку не забралі ў Германію, на работу, і падшукала ёй жаніха, вясковага настаўніка). Не радавала Вольгу гэтае ранняе замужжа, хоць і была яна з сябе дзяўчына рослая і ўдалая.

А магчыма ўспомнілася ў дарозе іншае. Вясна 1950 года. Прыехала Вольга Міхайлаўна першы раз у Круглае — туды мужа накіравалі настаўнічаць.

Узяўшы сынка-малалетку на рукі, доўга стаяла ля воза і глядзела на высокае чыстае неба, на зялёную сцяну лесу вакол вёскі.

Куды ні пасылалі мужа, яна ішла на калгасную работу нароўні з усімі. І тут, на новым месцы, Вольга Міхайлаўна здзівіла вясковых кабет тым, што праз тыдзень пайшла ў кантору калгаса і напрасілася, каб ёй даручылі круглянскую брыгаду (там знялі брыгадзіра за п'янку). На яе паглядзелі як на дзівачку. Да гэтага жонкі настаўнікаў рэдка калі выходзілі на калгасную работу. А ёй, бачыце, падавай брыгаду. І ўсё ж згадзіліся.

Што яна памятае пра тыя, цяпер далёкія гады? Як на пясочку збіралі па восем-дзевяць цэнтнераў збожжа і лічылі сябе шчаслівымі? Як вывела за тры гады брыгаду ў перадавыя? І пра «зялёны шыфер» успомніла.

Неяк позняй восенню — ужо белыя мухі лёталі — хапілася Вольга Міхайлаўна за галаву: канюшня без даху. Ні гонты, ні кулявой саломы ў калгасе не было. Сабрала калгаснікаў і кажа: «Вось што, даражэнькія—канюшню мы з вамі прагледзелі. І мая віна тут ёсць. Але коням ад нашых спачуванняў лягчэй не стане. Трэба нешта прыдумаць. Давайце параімся».

Назаўтра ўсёй брыгадай выехалі ў лес, насеклі яловых лапак і накрылі канюшню.

Дванаццаць гадоў пахадзіла яна ў брыгадзірах. Усяго было ў рабоце: і радасцей, і крыўд. І ўсё ж ладзілася ў яе справа, як у добрай гаспадыні ў сям'і. Умела Вольга Міхайлаўна заахвоціць людзей сваім вясёлым настроем, жартамі. Хто тады быў у брыгадзе? Чалавек пяць-шэсць працаздольных мужчын, а то ўсё «жаночае воінства». З ім і брыгаду ставілі на ногі. З воінствам гэтым дзяліла і кароткія свае радасці, калі ў дні свят збіраліся ў адной хаце (клуба не было), накрывалі сталы, запрашалі Івана Міцкевіча, вясковага баяніста, і да позняй ночы вытанцоўвалі кадрылю, польку. І першай у скоках і песнях была брыгадзірка.

Пахавала яна мужа дзевяць гадоў назад. У трыццаць пяць гадоў засталася ўдавой з трыма сынамі. Рашыла вярнуцца ў родныя Папоўцы, бліжэй да маці.

...Так ва ўспамінах мінавала вёскі Боркі, Таліцу, светлы бярозавы гай за Аступішчамі і ўехала на вузкую круглянскую вуліцу. Не паспела прывязаць да плота каня, як яе акружылі знаёмыя і родныя.

— Адкуль ты, Волечка, узялася? Столькі гадоў мы з табою не бачыліся! Заважнічала, мабыць.

— Што вы, жаночкі! Я ж на ферме цяпер, даяркай. Ад цямна і да цямна, самі ведаеце. Вось толькі ў водпуск і выбралася.

— А мы чулі, што ты на з'езд у Маскву едзеш, радыё гаварыла, газеты пішуць. Рады мы за цябе, усё ж наша выхаванка, як ні кажы, разам за чысценькі працадзень калісьці працавалі... А ты ўсё не старэеш, як яблычка, чырвоненькая...

— Ой, якое там яблычка, дзічка заваляшчая, — смяецца Вольга Міхайлаўна.

— Ну-ну, не прыбядняйся. А як хлопцы твае, мо ўжо ўсе павывучваліся?

— Самы малодшы, Уладзік, дзесяцігодку канчае, на журналіста думае вучыцца. Сашка ў Мінску інжынерам працуе, на інжынера вучыцца і Коля...

— У цябе, Міхайлаўна, пайшлі хлопцы ў навуку. Ты ж сама, казалі, завочна дзесяць класаў скончыла?

— Было такое. Збіралася ў ветэрынарны інстытут паступаць, ды перадумала. Адно, што гады ўжо не малыя, другое — гаспадарка, работа. Няхай ужо дзеці вучацца.

Расказалі круглянцы ёй пра свой калгас, што стаў ён на ногі, што старшыню «прыдбалі непітушчага, стараннага гаспадара і добрага чалавека», што жыццё пайшло на лад. Яна сама заўважыла змены па шматлікіх тэлеантэнах над дахамі, па новых ашаляваных дамах, па вачах гэтых неяк памаладзелых жанчын. Значыць, не дарэмна яна тут столькі гадоў ваявала за хлеб, за надоі, лаялася з гультаямі і п'яніцамі, цягнучы нялёгкую лямку брыгадзіра. У здабытках сённяшняй вёскі ёсць і яе доля працы, яе «цаглінкі».

А калі надвячоркам ад'язджала дамоў, бачыла, што шкадуюць яе жанчыны, не хочуць адпускаць.

мым прамым сэнсе слова—гэта афарбовачнае аддзяленне. У ім проста цесна. А працэс работы над кабінай «МАЗа» (я маю на ўвазе не толькі афарбоўку, але і зварку і штампоўку) амаль што роўны па сваёй працягласці працэсу работы над усім кузавам «Волгі». Толькі пакрыццё кабіны сінтэтычнай эмаллю займае 8 мінут. І мы, каб не затрымліваць канвеер, вымушаны скарачаць гэты цыкл, што, безумоўна, адбіваецца на якасці.

Даводзіцца з-за недахопу ўласных плошчаў прасіць дапамогі ў іншых заводаў, а прасіць у некага ласкі—самі разумееце, як гэта дапамагае справе!.. У сувязі з гэтым мы ўвайшлі ў Дзяржплан СССР з прапановай выдзеліць нам на новую пяцігодку 40 мільёнаў рублёў на пашырэнне вытворчасці.

Як жа мы мяркуем рэалізаваць гэтыя 40 мільёнаў рублёў? Планы нашыя рэальныя.

Мы хочам пабудаваць у новай пяцігодцы філіял Мінскага аўтазавода ў Асіповічах плошчай 120 тысяч квадратных метраў, са стамільённым гадавым аб'ёмам фінансавага абароту. З пабудовай гэтага філіяла можна будзе значна павялічыць выпуск аўтамабіляў і аўтапаяздоў на базе трох- і двухвосных машын.

Той, хто уважліва знаёміўся з праектам Дырэктыў XXIV з'езда КПСС, відаць, звярнуў увагу на тыя радкі, дзе сказана пра стварэнне аўтапаяздоў з павышанай грузападымальнасцю. Дык вось канструктары Мінскага аўтазавода на аснове большай уніфікацыі існуючых вузлоў ужо стварылі аўтапаязды грузападымальнасцю 20, 25 і 30 тон.

У 1968-70 гадах праходзілі дзяржаўныя выпрабаванні новыя машыны. Яны прайшлі 25 тысяч кіламетраў у самых розных геаграфічных шыротах—мінскія цягачы выпрабоўваліся і на арктычным марозе і ў спякотнай Сярэдняй Азіі. Іх маршрут пралёг па дарогах Магадана, Варкуты, Ташкента, па высакагорных трасах і стэпах, і яны вытрымалі ўмовы гэтага аўтапрабегу!

Дарэчы, у час такіх прабегаў выпрабоўваюцца не толькі машыны, але і людзі, і, відаць, невыпадкова гэтая падзея дала матэрыял для кінематаграфістаў студыі «Беларусьфільм», якія ствараюць пра гэта мастацкую карціну.

Кінематаграфісты робяць сваё, а мы сваё. Наш завод на часова прыстасаваных пляцоўках (складах) выпускае аўтапоезд у счэпе «МАЗ-504В-5205» грузападымальнасцю 20 тон і аўтапоезд «МАЗ-516-886» — 24 тоны. Гэтыя паязды перавозяць грузы на міжсаюзных і міжнародных трасах.

Мы разлічваем у дзевятай пяцігодцы павялічыць грузападымальнасць аўтапаяздоў **у два разы.** Акрамя таго, што гэта вызваліць значную колькасць шафёраў, дзяржава атрымае яшчэ і чысты грашовы даход, прычым вельмі значны.

Да канца пяцігодкі мы павінны паставіць дзяржаве 200 аўтапаяздоў. План першага квартала новай пяцігодкі мы абавязаліся перавыканаць, і ёсць упэўненасць, што з пастаўленай задачай справімся.

У праекце Дырэктыў, бадай, галоўнае месца адводзіцца паляпшэнню дабрабыту савецкіх людзей.

Што робіцца для гэтага на нашым заводзе? У мінулай пяцігодцы мы пабудавалі для нашых рабочых 22,5 тысячы квадратных метраў жылля толькі на сродкі прадпрыемства, так сказаць, гаспадарчым спосабам. У наступнай пяцігодцы думаем гэтую лічбу падвоіць. Ужо ў гэтым годзе нашы рабочыя атрымаюць новую паліклініку і плавальны басейн. А ў 1972-73 гадах—Палац культуры з глядзельнай залай на 1200 месц і прафілакторый на 100 месц, які размесціцца ў маляўнічым кутку ля рэчкі Волмы.

Планы гэтыя рэальныя. Упэўнены, што яны будуць здзейснены.

У гэтыя дні калектыў нашага завода, як і ўсе савецкія людзі, працуе з асаблівым натхненнем, кожны рабочы прысвячае сваю працу XXIV з'езду КПСС. Мне асабіста, як дэлегату ўсесаюзнага форума камуністаў, прыемна ўсведамляць, што, як сказаў паэт, і мая праца ўліваецца ў працу маёй рэспублікі.

---

Зноў зацягнулі песню палазы, паплылі ўзбоч дарогі чыстыя бярозавыя гаі, ёлкі ў пышных белых футрах. Пакуль вярнулася дамоў—ноч агарнула зямлю. Сын яшчэ сядзеў над кнігамі. А ёй заўтра ў чатыры гадзіны раніцы трэба быць на ферме. Ад дома з паўкіламетра будзе. Шэсць гадоў ужо вытоптвае туды сцежку.

Спярша яе брыгадзірам на ферме паставілі. Папрацавала з год, пайшла да старшыні, кажа: «Пашукайце іншага на маё месца, а я лепей групу вазьму».

Год таму ў калгасным Доме жывёлавода сабраліся даяркі, старшыня калгаса Сяргей Паляшчук, сакратар партыйнай арганізацыі Антось Брытвіч. Гамонка пайшла пра тое, што няма ахвотнікаў прымаць першацёлак. З першацёлкамі клопату больш, а малака—менш.

— Ну, дык хто смялейшы?—спытаў Сяргей Сямёнавіч, акідваючы позіркам жанчын.

Маўчалі, пераглядаліся, пасмейваліся.

— Я вазьму, так і быць,—сказала, устаўшы, Вольга Міхайлаўна.

Пасля сходу старшыня падышоў да яе і ціхенька сказаў: «Я і чакаў, Міхайлаўна, што вы згодзіцеся. Заўтра самі будзеце падбіраць сабе групу».

І яна не прагадала. Летась ад кожнай з дваццаці першацёлак атрымала па 3736 кілаграмаў малака.

Перамагло ўменне Вольгі Міхайлаўны, якое яна набывала гадамі на заатэхнічных курсах, з кніг, што брала ў заатэхніка. І яшчэ яе працавітасць, імкненне ўсё рабіць трывала, з душой.

Ці не таму камуністы калгаса выбралі яе членам партыйнага бюро, намеснікам сакратара партыйнай арганізацыі, старшынёй групы народнага кантролю.

Расказалі мне ў вёсцы пра такі выпадак. Аднойчы ў поўдзень адключылі электраэнергію на ферме. З падстанцыі сказалі, што надоўга. Даяркі паставілі вёдры і дамоў. Вольга Міхайлаўна загарадзіла ім дарогу.

— А як жа каровы? Так і будуць стаяць нядоеныя?

— Дадуць святло —падоім.

— А калі не дадуць сёння? Эх, вы! Ці даўно рукамі выдойвалі? А цяпер, жаночкі вы мае, без электрыкі і кроку не ступіце. Вы як хочаце, а я пайду даіць уручную.

Пастаялі даяркі, моўчкі разабралі вёдры і пайшлі ўслед за Вольгай Міхайлаўнай.

А вечарам далі святло, прывычна загудзела вакуумпомпа і пра дзённую размову ніхто не ўспамінаў, быццам яе і не было.

Нядаўна на партыйным сходзе камуністы абмяркоўвалі праект Дырэктыў па новым пяцігадовым плане. Калгас імя Калініна — адзін з найбольш эканамічна моцных на Случчыне. Умеюць тут вырошчваць высокія ўраджаі збожжавых і прапашных культур, атрымліваюць шмат мяса і малака. На новую пяцігодку камуністы вызначылі новыя, яшчэ больш высокія рубяжы. У гонар маючага адбыцца XXIV з'езда партыі Вольга Міхайлаўна Захарэвіч узяла павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы на першы год пяцігодкі — надаіць ад кожнай фуражнай каровы па чатыры тысячы кілаграмаў малака.

На днях мы сустрэліся з ёю ў калгаснай канторы. Разгаварыліся. Натуральна, гаворка зайшла аб паездцы Вольгі Мікалаеўны ў Маскву.

— Ніколі не была ў сталіцы. А цяпер і радасна, і неяк боязна. Як падумаю, дык дух захоплівае.

Я ведаю, што, вярнуўшыся са з'езда, яна абавязкова з'ездзіць у Круглае, каб расказаць пра Маскву, пра ўсё, што чула там і бачыла, раскажа тым, з кім пачынала працоўны шлях.

**М. БАРЫСЕВІЧ.**

---

**Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне сакратару праўлення СП БССР Янку Брылю з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці сястры Уліты Антонаўны.**

**Супрацоўнікі праўлення, Літфонда і паліклінікі Саюза пісьменнікаў БССР смуткуюць з прычыны трагічнай смерці прафесара МІХЕЛЬСОНА Абрама Іосіфавіча і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

---

## Паэтычная паверка

### Ніл ГІЛЕВІЧ



## ЛЕНІНСКАЕ СВЯТА НЕ ПРАЙШЛО

Ленінскае свята не прайшло!
Ленінскае свята—не кампанія:
Не на год—навек яго святло
У баі з няпраўдаю запалена.

Бою гэтаму яшчэ грымець
Ды грымець да часу запаветнага,
Аж пакуль не стане палымнець
Волі сцяг па-над усёй планетаю.

Не складайце ж рук— сабе на зло.
Перамогі словамі не мерайце...
Ленінскае свята—не прайшло!
Самае вялікае—наперадзе!

## БЫЛАЯ СЯДЗІБА АСАДНІКА

На ўзлеску, дзе трава буяе дзіка,
Дзе захмызеў удзірванелы дол,
Калісь асадніка была сядзіба—
Чужынца-пана ўтульнае гняздо.

Ён думаў тут навек укараніцца
І ўсё загрэбсці, ўсё прыбраць да рук:
І лес, і луг, і поле, і крыніцу,
І нават песню, што пяе жаўрук!..

Ён азіраў куток—амаль не райскі—
І верыў: «Я тут гаспадар адзін!
А ўсе Сымоны, Пётры ды Параскі
У служках будуць у мяне хадзіць.

Я выб'ю, выб'ю,—марыў ён панура,—
Бунтоўны дух з тутэйшага хам'я:
Мая тут будзе панаваць культура
І мова будзе тут гучаць мая!..»

Гугнелі модлы пад жалезным дахам,
Грымелі клямкі, бразгалі замкі.
А двор мычаў, і рохкаў, і кудахкаў,
І гагаў, і брахаў—на ўсе бакі!..

І вось—нічога: ні двара, ні дома,
І цішыня—як быццам дзень аглух.
Адзін падмурак выступае з долу
Ды яблыні здзічэлыя наўкруг...

Гляджу і думаю: які нялюдскі
І марны лёс асадніцкіх сядзіб!..
На ацалелай каменнай прыступцы,
Як дух пустэчы, яшчарка сядзіць.

●

Летняй ночкай, чуйнаю, як звон,
Дзесь між Прыпяццю, Дзвіной і Бугам,
Дзе ад родных пахаў—галаў кругам,
Дзе ад родных гукаў—слёзы з воч,—
Зноў і зноў я думаю пра тых,
Хто адсюль за свет паехаць мусіў,
І ў хвіліну гэтую чамусьці
Так шкада мне, так шкада мне іх!

●

Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі,
Там, дзе студзіць цёплы дол раса,
Дзе з жытнёвых каласоў паволі
Выплывае божая краса.

Для няпрагных—гэтага даволі:
У вар'ята-века вырваць міг
І паслухаць моўчкі, удваіх,
Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі.

●

Даруйце, родныя бары і пушчы,
Зямлі бацькоўскай неацэнны скарб,
Што не глухі і не сляпы — відушчы
Не чуў, не бачыў вашых слёзных скарг.

Ламаў вам рукі варвар, рэбры трушчыў,
Смаліў агнём, жалезамі крамсаў...
Даруйце, родныя бары і пушчы:
Не ведаў я, што з вамі гіну сам.

●

Маленькі пташачак, як верабей,
На дождж і холад зноў варожыць звечара.
І я не рад ягонай варажбе
У шыгаллі старой сасны знявечанай.

Мне дождж і холад збрыдзелі даўно:
Нідзе не выйсці—скрозь цячэ і цэдзіцца.
Гляджу на шлях, а мутнае акно—
Ці ты, ці не?—мне не дае прыгледзецца.

●

Услаўлялі яго, запляталі ў вянкі,
Потым кпілі з яго, абзывалі ўсяляк,
А ён моўчкі цвіце, як і цвіў праз вякі,
І прызнаецца шчыра, нашчадкі сялян:

Ці ж не сумна было б гэтай сцежкай ісці—
Між густой збажыны, каб хоць рэдка здалёк
Сінім вокам сваім не глядзеў, не свяціў,
Не трывожыў шчымліва душу васілёк?

●

У пушчы птах лясны лятае нізам,
Дзе прастарней, няма сукоўгалін,
Дзе, не забіты дробнарослым хмызам,
Лес камялі па пахі агаліў.

О, дружа-браце, не рабі дэвізам,
Але запомні—гэта варта знаць:
У пушчы птах лясны лятае нізам,
Каб крылле аб сукі не паламаць.

●

Няма на свеце горшае брыды,
Як здраднік—вырадак і адшчапенец,
Што даражэй свой хлеб сабачы цэніць
За родны край, дзе спяць яго дзяды,

Што нават выракся імя свайго
І на Радзіму брэша ў злобе дзікай,
Таго не знаючы, што ёй, вялікай,
Агідна нават плюнуць на яго!

# ПРАЎДА ЖЫЦЦЯ — ПРАЎДА МАСТАЦТВА

ЗАЎТРА дзесяты раз каляндар сцэнічнага мастацтва адзначае Міжнародны дзень тэатра. Перад тым, як адкрыць заслону і пачаць спектакль, кожны калектыў артыстаў выправіць на авансцэну свайго прадстаўніка, каб ён па-сяброўску пагутарыў з гледачамі. Так будзе ў гарадах, так будзе і на выязных пляцоўках. Агляд зробленага будзе сёлета ў нашай краіне больш пільны і патрабавальны, бо работнікі тэатра напярэдані XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, як і ўсе працоўныя краіны, звяраюць свае планы і здзяйсненні з ленінскімі ідэямі, з праграмай ленінскай партыі. Творчая справаздача, якой з'яўляецца перадз'ездаўская афіша, мае дзелавы характар. Тэатры рэспублікі паказваюць свае дасягненні ва ўсіх сферах дзейнасці — ад рэпертуару да выхавання маладога акцёра, ад узроўню рэжысуры да культуры афармлення, ад узораў высокага майстэрства ветэранаў сцэны да ўсхваляванага паглыблення ў ролю дэбютанта...

Тэатр стаў арганічнай часткай духоўнага жыцця народа. Ніякі росквіт кіно і тэлебачання не можа пахіснуць нашай любві да непасрэднага і жывога мастацтва сцэны. Заўсёды новы лад эмоцый, які лучыць тэатральныя падмосткі і залу, імправізацыйна знойдзеныя фарбы ў вобразах сённяшняга спектакля, у гэтыя хвіліны народжаны напал і ўсхваляваны нерв відовішча, калі глядач бачыць пераменлівы бляск вачэй выканаўцы і чуе трапяткія інтанацыі голасу, — дзе яшчэ можна адчуць і перажыць такое! Тэатр дорыць нам непаўторна ўзрушанае перажыванне саўдзелу ў творчым акце.

Сёння тэатры Беларусі маюць права сказаць гледачу — у нас ёсць свой, арыгінальны і змястоўны, багаты на жанры і праблематыку рэпертуар. Оперы «Андрэй Касценя» М. Аладава і «Зорка Венера» Ю. Семянякі, балет «Выбранніца» Я. Глебава, п'есы «Трыбунал» і «Зацюканы апостал» А. Макаёнка, «Амністыя» М. Матукоўскага, «Толькі адно жыццё» і «Дарога праз ноч» А. Маўзона, «Юнацтва рыцара» В. Зуба, «Начное дзяжурства» А. Дзялендзіка, інсцэніроўкі празаічных твораў «Людзі на балоце» і «Рудабельская рэспубліка» па кнігах І. Мележа і С. Грахоўскага, музычная камедыя «Спявае «Жаваранак» Ю. Семянякі... Розныя па мастацкім узроўні, спектаклі, пастаўленыя па гэтых творах, складаюць цікавую і разнастайную панараму народнага жыцця на розных этапах нашай гісторыі. Радуе той факт, што драматургія і тэатр дапытліва вывучаюць і асэнсоўваюць тэмы сучаснасці.

Паколькі кіно і тэлебачанне ўсё ж робяць свой уплыў на гледачоў, тэатр цяпер пільна вывучае свае спецыфічныя рэсурсы, свае творчыя магчымасці, каб, абапіраючыся на прыроду сцэнічнага мастацтва, дамагацца яркага эфекту, немагчымага ні ў якой іншай галіне мастацтва. З цяжкасцямі, але ўсё ж здабываючы ў рэпертуар «што» ставіць і іграць, рэжысура і акцёры дапытліва шукаюць адказу на адвечнае і заўжды актуальнае пытанне — «як!». Мабыць, дарэчы будзе тут спаслацца на выказванне марксісцкага тэарэтыка мастацтва А. Луначарскага ў артыкуле «Правільны шлях», надрукаваным пры жыцці У. І. Леніна ў 1922 годзе. Гучыць яно так: «...Ніякая сталасць мас, ніякія перамогі рэвалюцыі, ніякае выхаванне абсалютна нічога не значаць у галіне тэатра, калі няма асноўнага — займальнасці, і прытым менавіта займальнасці для мас. Самы подлы кінематограф будзе біць тэатры насмерць, пакуль тэатр будзе несці масе, можа быць, і вытанчаныя, але не разлічаныя на яе псіхалогію прадукты. Пры гэтым тэатр эфектаў, кантрастаў, шырокай позы, гучнага слова, напружанага хараства і карыкатурнай агіднасці, тэатр, які ўпіраецца адным канцом у тытанічны пафас, другім — у бесшабашную буфанаду, з'яўляючыся адзіна магчымай плоскасцю сапраўды народнага тэатра,— ёсць разам з тым і найвышэйшая форма тэатра як такога».

Што тут актуальнае і надзённае для нас! Думка пра неўміручасць тэатральнасці на сцэне. З цягам часу адбываюцца пэўныя і нават вельмі адчувальныя змены ў псіхалогіі мас, а гэта ўносіць свае карэктывы ў густы публікі, яе эстэтычныя патрабаванні і ацэнкі. Драматургія і тэатр абавязаны трымаць руку на пульсе такіх перамен, дасканала ведаць аўдыторыю, якой яны адрасуюць свой твор.

Займальнасць, пра якую гаварыў Луначарскі, не мае нічога агульнага з эрзацам мастацтва: яна прадугледжвае высокі ўзровень вобразнага мыслення мастака, кім бы ён ні быў,— пісьменнікам, рэжысёрам або выканаўцам роляў. Займальнасць добрая тады, калі дзеля таго, каб дасягнуць высокай выхаваўчай мэты, сцэна карыстаецца ўсім багаццем тэатральных прыёмаў. Не сакрэт жа, што ў асобных работнікаў тэатра сучасны стыль ігры нядаўна зводзіўся да так званага «мармытальнага рэалізму», да адмаўлення грыму (грыму не толькі на твары, а і таго, які Станіслаўскі называў «духоўным»), і замест узбагачэння выяўленчых сродкаў, акцёры часам збяднялі сябе, а рэжысура, бывала, падтрымлівала такую тэндэнцыю. Добра, што тэатральная грамадскасць крытычна ставіцца да гэтага і, грунтуючыся на багатым вопыце савецкай сцэны, аднаўляе ў правах сапраўдную тэатральнасць на сцэне.

Варта адзначыць, што гэта адчуваецца ў спектаклях большасці нашых рэжысёраў — Ц. Кандрашова, Б. Луцэнкі і В. Раеўскага ў купалаўскай трупе, С. Казіміроўскага і У. Забелы ў коласаўцаў, І. Папова ў Гомелі, В. Каралько ў Бабруйску, Г. Волкава і Г. Баравіка ў Брэсце. А гэта само па сабе заслугоўвае ўвагі, бо ёсць добрае суладдзе ў дзейнасці спрактыкаваных і дасведчаных майстроў і нядаўніх выхаванцаў нашага тэатральна-мастацкага інстытута. Трэба спадзявацца, што і надалей рэжысура будзе беражліва захоўваць лепшыя традыцыі беларускай сцэны і ўзбагачаць іх прыёмамі сучаснай тэатральнасці.

Калі разгортваеш праграму спектакля ў любым з тэатраў Беларусі, звяртаеш увагу на тое, што многія артысты маюць ганаровыя званні заслужаных і народных, лаўрэатаў дзяржаўных прэмій і прэмій Ленінскага камсамола. Часам нават здаецца, што званні даюцца празмерна шчодра. Але ўзровень артыстычнага майстэрства большасці акцёраў высокі: Л. Рахленка і Ф. Шмакаў, Б. Уладамірскі і Г. Маркіна, Г. Талкачова і Л. Сторажава, Ю. Уласаў і Г. Дубаў, А. Цароў і П. Вараб'ёў, В. Лебедзеў і Р. Маленчанка, В. Тарасаў і А. Мілаванаў, Н. Гайда і В. Бруй, В. Чарнабаеў і І. Шыкунова. К. Малышава і Р. Янкоўскі... Гэтыя і многія іншыя артысты дэманструюць арганічнае ўменне пераўвасабляцца і весці кожную новую ролю ў адпаведнасці з жанрам п'есы, з агульным пафасам пастаноўкі, не губляючы сваёй творчай індывідуальнасці.

Узмацняюцца сувязі тэатра з кіно і тэлебачаннем. Праўда, бывае, што той або іншы з акцёраў дазваляе сабе празмерна часта выходзіць да камеры і здымацца ў ролях, якія ён не паспеў як мае быць абдумаць і прапусціць праз прызму свайго тэмпераменту, але ўсё часцей В. Тарасаў, М. Яроменка, П. Кармунін, Ф. Шмакаў, А. Клімава, Я. Палосін і іншыя дзеячы беларускай сцэны здабываюць і ў суседніх муз справядлівыя лаўры. І вяртаюцца ў тэатр з набытым на здымачнай пляцоўцы або ў павільёнах студый істотна новым творчым багажом.

Праект Дырэктыў XXIV з'езда КПСС прадугледжвае рашучы ўздым дабрабыту працоўных краіны. А такі ўздым садзейнічае росту культурных запатрабаванняў людзей. Абмяркоўваючы праект Дырэктыў, работнікі тэатра карэнным чынам пераглядаюць свае здабыткі і свае пралікі, каб далей працаваць па высокіх прафесіянальных крытэрыях, актыўна ўдзельнічаць у ідэйным выхаванні савецкага чалавека, а гэта азначае жыць у мастацтве так, як вымагае час, ствараць па-партыйнаму ваяўнічыя і яркія па форме творы, адрасаваныя народу.

Заўтра ва ўсіх тэатрах пра ўсё гэта раскажуць гледачам прадстаўнікі творчых калектываў. Нашы тэатры пакажуць свае лепшыя работы, яшчэ раз прынцыпова і патрабавальна ўзважыўшы зробленае і вызначыўшы бліжэйшыя перспектывы.

З Міжнародным днём тэатра грамадскасць віншуе ўсіх, хто па закліку сэрца служыць у сцэнічным мастацтве высакароднай мэце і перадавым ідэалам часу.





Дзень тэатра... Аб'ектыў фотажурналіста Э. Трыгубовіча «ловіць» розныя моманты жыцця артыстаў. Прапануем увазе чытачоў тры з такіх здымкаў, не зусім звычайныя: на рэпетыцыі — народная артыстка БССР Ніна Давыдзенка і заслужаны артыст БССР Леанід Чахоўскі; пасля сустрэчы са слухачамі — народная артыстка БССР Тамара Шымко; дома — заслужаная артыстка БССР Марыя Захарэвіч.

# «НА СЦЭНЕ І Ў ЗАЛЕ — КУПАЛА»

У аўторак, 23 сакавіка, сціплы блакітны білет са знаёмым абліччам незабыўнага Янкі Купалы і палоскай беларускага нацыянальнага арнаменту запрасіў шматлікіх гасцей у «Дом Купалы» на чарговы вечар, які быў прысвечаны тэме «Купала і тэатр». Аднак перш, чым расказаць пра сам вечар, хочацца зрабіць невялікае адступленне.

Нейк сталася так, што за паняццем «музей» у нас замацавалася ўяўленне як аб нечым вывераным, раз і назаўсёды вызначаным, акадэмічным. Яно, нібыта, і сапраўды. Музей — гэта значыць, экспанаты, макеты, дыяграмы, зашклёныя стэнды... Але, пэўна, усё гэта можа паўстаць у зусім іншым святле, калі ў музеі працуюць руплівыя, адданыя сваёй справе людзі. І тады, аказваецца, гэтая маўкліва-спакойная ўстанова можа стаць жывым, дзейсным асяродкам культуры.

Зноў жа — прыгадаем Літаратурны музей Янкі Купалы. Працуе ён не першы год, і за гэтыя гады супрацоўнікі музея зрабілі нямала для прапаганды Купалавай спадчыны, для таго, каб слова народнага песняра было з намі ў будні і ў святы. У апошні ж час арганізацыйна-масавая работа «Дома Купалы» ажывілася асабліва. Дастаткова сказаць, што толькі за апошнія два-тры месяцы тут адбыліся такія масавыя і, дададзім, цікавыя вечары, як «Купала ў выяўленчым мастацтве», «Купала ў музычным мастацтве», «Святло вялікай дружбы» (Купала і Колас), «Купала і сучасная паэзія» і інш.

І вось — чарговы вечар: «На сцэне і ў зале — Купала».

Адкрываючы яго, дырэктар музея Ул. Юрэвіч гаворыць аб ролі Янкі Купалы ў стварэнні беларускага нацыянальнага тэатра, адзначаючы, што ягоная «Паўлінка» — гэта паходня, якая свеціць не толькі над тэатрам, які носіць імя песняра, але і над многімі іншымі нашымі прафесіянальнымі і народнымі тэатральнымі калектывамі.

Навуковы супрацоўнік музея М. Дзяшкевіч гаварыў пра шлях Янкі Купалы ў драматургію, пра яго заслугі ў нараджэнні першага прафесіянальнага нацыянальнага тэатра, пра яго клопаты аб росквіце культуры роднага народа, пра яго вялікую дружбу з многімі прадстаўнікамі беларускага сцэнічнага мастацтва.

А пасля на вечары гучала неўміручае Купалава слова. Напачатку госці «Дома Купалы» сустрэліся з «Паўлінкай»—сцэну з бессмяротнай камедыі паказалі народны артыст СССР Ул. Дзядзюшка, народная артыстка БССР Р. Кашэльнікава і артыстка А. Долгая. Потым адзін за адным перад прысутнымі выступалі вядомыя майстры нашага мастацтва.

Пра першыя сустрэчы з Янкам Купалам расказала прысутным народная артыстка СССР Л. Александроўская.

— Хоць тэма нашай сённяшняй сустрэчы «Купала і тэатр», — гаворыць яна,— я таксама з радасцю згадзілася прыняць у ёй удзел. Мне хочацца сказаць пра заслугі Івана Дамінікавіча ў развіцці нашага не толькі тэатральнага, але і музычнага мастацтва. Ніколі не забуду, што на ўстаноўчым сходзе, на якім было створана першае «Беларускае музычнае таварыства», прысутнічаў і Янка Купала, што пры яго непасрэдным удзеле ў 1924 годзе было адчынена першае музычнае вучылішча і ў ім — першы вакальны клас. А хіба можна забыць песні на словы Янкі Купалы! Ягоныя вершы — гэта ўжо сама мелодыя, сама песня!

Эстафету ўспамінаў прымае народны артыст СССР П. Малчанаў. Ён гаворыць:

— Прыгадваю 1936 год. У БДТ-2 ідуць рэпетыцыі «Паўлінкі» і «Прымакоў». Пастаноўшчыкам спектакляў быў я. Паўлінку, дарэчы, іграла наша сённяшняя госця Раіса Мікалаеўна Кашэльнікава. І вось у той час пашчасціла некалькі разоў сустракацца з Янкам Купалам і яго вернай спадарожніцай і памочніцай цёцяй Уладзяй. Забыць гэтыя сустрэчы немагчыма. Як сёння памятаю дзень прэм'еры «Прымакоў», бачу дзядзьку Янку — узрушанага, радаснага, які, са слязьмі на вачах, гаварыў нам: «Дзякую, хлопчыкі, дзякую — за ўсё!»

У заключэнне Павел Сцяпанавіч прачытаў сцэну з «Прымакоў» і маналог «прымака» Максіма Кутаса.

Народная артыстка БССР В. Галіна падзялілася ўспамінамі аб тым, як яна працавала над вершамі Янкі Купалы, як чытала іх па радыё і з эстрады, пра тое, як ёй пашчасціла быць у Купалавым доме ў той вечар, калі яго шматлікія сябры і прыхільнікі віталі Івана Дамінікавіча з 30-годдзем літаратурнай дзейнасці і на якім яна, тады зусім маладая артыстка, вельмі хвалявалася, чытаючы новы, нідзе не апублікаваны купалаўскі верш «Госці».

Пра вялікую чалавечую шчырасць і абаяльнасць Янкі Купалы, пра яго моцную любоў да тэатра гаварыў народны артыст СССР Ул. Дзядзюшка; пра тое, як працаваў над вобразам Якіма з «Паўлінкі» і над вобразам самога песняра ў п'есе В. Віткі «Шчасце паэта» — народны артыст БССР В. Шаціла; пра свае тры сустрэчы з паэтам расказаў народны артыст СССР З. Стома.

Апошнім на вечары падзяліўся сваімі ўспамінамі пра Янку Купалу намеснік старшыні праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Ул. Стэльмах.

М. ГІЛЬ.

# АРЫЕНЦІР — СУЧАСНАСЦЬ

*З III з'езда кінематаграфістаў Беларусі*

Як мы паведамлялі ўжо, 16—17 сакавіка г.г. адбыўся III з'езд кінематаграфістаў Беларусі. У мінулым нумары «Літаратуры і мастацтва» быў змешчаны справаздачны даклад праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР. Сёння мы працягваем публікацыю матэрыялаў з'езда.

Спрэчкі адкрыў мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» Б. Сарахатунаў. Расказваючы аб рабоце беларускіх кінадакументалістаў, ён падкрэсліў, як галоўнае ў іх рабоце, увагу да сучаснасці. З 236 фільмаў, якія выпусціла аб'яднанне за апошнія чатыры гады, 193—на сучасную тэму.

Але што такое сучаснасць? Іншы раз у фільмах ёсць толькі яе знешнія прыкметы, аднак няма пранікнення ў глыбіню падзей, у чалавечыя характары. Трэба рабіць такія стужкі, якія праўдзіва расказвалі б нашчадкам і пра герояў нашага часу, такіх, напрыклад, якім быў Кірыла Арлоўскі, і пра сціплых радавых працаўнікоў, раскрываючы іх багаты, складаны, яркі ўнутраны свет.

З вялікай адказнасцю рыхтавалі дакументалісты фільмы, прысвечаныя XXIV з'езду КПСС. Аўтары гэтых фільмаў і ўвогуле аб'яднанне імкнуліся адлюстраваць тое галоўнае, чым жыве сёння рэспубліка.

Прамоўца спыніўся на выпуску навукова-папулярных фільмаў. На жаль, пакуль што іх выпускаецца ў год толькі тры, хоць афіцыйна «Летапіс» і расшыфроўваецца як «аб'яднанне навукова-папулярных і дакументальных фільмаў». Цяперашняя база кінастудыі дазваляе сур'ёзна заняцца гэтым важным жанрам і выходзіць на ўсесаюзны экран з добрымі праблемнымі стужкамі.

Сур'ёзныя прэтэнзіі ёсць у кінадакументалістаў да работнікаў кінапракату. У рэспубліцы няма і не бывае рэкламы дакументальных фільмаў. Саюз кінематаграфістаў БССР вымушаны быў заняцца прапагандай твораў гэтага жанру і за кароткі час наладзіў 68 сустрэч са шматтысячнай аўдыторыяй гледачоў.

— Мы і далей будзем працягваць пачатую справу,—гаворыць Б. Сарахатунаў. — Але пракатныя арганізацыі павінны рэзка змяніць свае адносіны да дакументальных стужак. Бо дакументальнае кіно стала сур'ёзным сапернікам мастацкаму і мае права на вялікую аўдыторыю...

Ад імя тэатральнай грамадскасці рэспублікі выступіў народны артыст БССР С. Бірыла. У апошні час беларускія артысты часцей прыцягваюцца да ўдзелу ў фільмах, адзначыў ён. І ўсё ж сувязь паміж кінастудыяй «Беларусьфільм» і тэатральнай грамадскасцю ўсё яшчэ вельмі слабая. Ніводнага драматычнага артыста няма ў праўленні Саюза кінематаграфістаў БССР, не запрашаюцца майстры сцэны на абмеркаванні новых карцін. Хацелася б, каб на дакументальных стужках фіксіравалася дзейнасць вядучых майстроў сцэны. Бо, на жаль, акцёраў пачынаюць здымаць ужо тады, калі яны практычна не працуюць або губляюць сваё творчае аблічча.

— Даклад праўлення на гэтым з'ездзе глыбока аналізуе агульны стан беларускага кіно, ускрывае прычыны творчых пралікаў, ставіць праблемы. Хацелася б, каб такая атмасфера прынцыповасці і самакрытычнасці панавала і ў штодзённым жыцці кінастудыі,—сказала кіназнаўца Е. Бондарава.

Прамоўца спыніла сваю ўвагу на тых фільмах беларускай кінастудыі, што створаны па горшых стандартах і канонах,—такіх, як «Дзесятая доля шляху», «Годны да нестраявой», «Шчаслівы чалавек». У карцінах гэтых збеднены жывыя чалавечыя пачуцці, няма шматгранных характараў. Пры ўсіх недахопах, якія ёсць у фільме «Іван Макаравіч», ён сагрэты аўтарскім жывым пачуццём і таму знайшоў водгук у сэрцах гледачоў.

Калі чытаеш нашу рэспубліканскую прэсу, сказала Е. Бондарава, ствараецца ўражанне, што з кінакрытыкай усё больш ці менш у парадку. Але на старонкі абласных ці раённых газет часцей за ўсё трапляюць выпадковыя цытаты з рэклам кінапракату, шаблонныя партрэты акцёраў і зрэдку рэцэнзіі, якія нават цяжка лічыць рэцэнзіямі, бо напісаны яны некваліфікаванымі аўтарамі без ведання спецыфікі кіно.

Агульны ўзровень кінакрытыкі, безумоўна, узняўся б, калі б у рэспубліцы з'явіўся хоць адзін друкаваны орган, які займаўся б спецыяльна пытаннямі кінамастацтва. Здаецца несправядлівым такое становішча, пры якім Саюз пісьменнікаў БССР мае шмат перыядычных друкаваных органаў, а ўсе астатнія творчыя саюзы рэспублікі—ніводнага.

Аб удасканальванні прафесійнага майстэрства — як сцэнарыстаў і рэжысёраў, так і кінакрытыкаў,—гаварыў сцэнарыст Ю. Лакербая. Не толькі ў раённай і абласной прэсе, лічыць ён, але і ў рэспубліканскай, даўно не было ніводнага артыкула ці рэцэнзіі, якія вызначаліся б свежасцю і глыбінёй творчай думкі. Асаблівыя прэтэнзіі выказвае ён да газеты «Літаратура і мастацтва», дзе, на думку прамоўцы, не было артыкулаў, якія «ўскалыхнулі б сцэнарыста ці рэжысёра, прымусілі яго адчуваць гарызонты акаляючага жыцця, далі нейкія цудоўныя ўзоры», а былі толькі «дрэнныя ці добрыя справаздачы або бухгалтарскія падлікі». «Нельга дрэнна пісаць сцэнарыі, дрэнна рабіць фільмы і яшчэ непрафесійна іх крытыкаваць»,—сказаў у заключэнне Ю. Лакербая.

Кіназнаўца А. Красінскі не згадзіўся з Ю. Лакербая ў ацэнцы стану кінакрытыкі. Хоць яшчэ ёсць у нас сур'ёзныя недахопы, гаворыць А. Красінскі, узровень крытыкі за апошнія гады значна ўзрос. Іншая справа, што не дасягнуты кантакты паміж рэжысёрамі, сцэнарыстамі і крытыкамі. Неяк так атрымліваецца, што абмеркаванне ў нашым асяроддзі сцэнарыя альбо кінастужкі выклікае хваравітую рэакцыю стваральнікаў фільма. Трэба памятаць, працягвае А. Красінскі, што збіраемся мы не для таго, каб выслухоўваць хвалу і захапленні, а каб па-дзелавому і прынцыпова гаварыць пра тое, што перашкаджае студыі ствараць высокамастацкія карціны.

Далей А. Красінскі гаварыў аб увасабленні сучаснай тэмы ў беларускім мастацкім кіно. На яго думку, у пасляваенныя гады не створана ніводнага буйнага твора кінематаграфіі на сучасную тэму, роўнага па ідэйных і мастацкіх вартасцях лепшым фільмам на гісторыка-рэвалюцыйныя тэмы і тэмы Вялікай Айчыннай вайны, такім, як «Канстанцін Заслонаў» і «Чырвонае лісце», як «Праз могілкі» і «Альпійская балада». Відавочна, сучаснай можна назваць толькі такую карціну, у якой па-новаму, востра ставяцца і вырашаюцца складаныя праблемы сённяшняга жыцця. І ніякая ў вышэйшай ступені высакародная задума аўтараў не выратуе фільм, у якім галоўны герой—станок, а сапраўдны канфлікт падменены ўяўным. Яскравым прыкладам такога няправільнага падыходу да тэмы можа служыць фільм «Дзесятая доля шляху». Адсутнічае сапраўдны драматургічны канфлікт у стужках «Ствары бой» і «Шчаслівы чалавек». Калі глядзіш такія фільмы, міжволі ўзнікае пытанне: адкуль іх аўтары чэрпаюць матэрыял? Узнікае і другое пытанне: чаму рэжысёры бяруцца за пастаноўку фільмаў па відавочна слабых сцэнарыях. Што гэта—вынік непатрабавальнасці альбо шлюб па разліку? Ні тое, ні другое не можа прынесці поспеху.

Аператар Ю. Марухін заклікаў умацоўваць творчую дысцыпліну на студыі. Спазненне акцёраў на здымкі, сказаў ён, лічыцца нармальнай з'явай. Рэжысёры пачынаюць шукаць рашэнне эпізодаў на здымачнай пляцоўцы, і часта палова рабочага дня ідзе толькі «на раскачку». Між тым, рэжысёр павінен прыехаць на здымкі з гатовым рашэннем, а на пляцоўцы як мага лепш і дакладней яго рэалізаваць. Аб недастатковым прафесійным майстэрстве рэжысуры сведчыць той факт, што ў апошнія гады яны не самі манціруюць свае фільмы, а даручаюць гэтую справу прыезджым мантажорам.

Выклікае таксама здзіўленне, што рэжысёры не змагаюцца за сцэнарыі, блізкія ім па духу, па пастаўленых праблемах, а задавальняюцца «гладкімі» так званымі «лёгка праходнымі» — з іх не зробіш шэдэўраў, затое і клопатаў менш.

Некаторыя прамоўцы з незадавальненнем гаварылі пра тое, што аператары імкнуцца быць рэжысёрамі. На думку ж Марухіна, гэта тлумачыцца творчым ростам лепшых аператараў, бо таленавітаму аператару проста нецікава працаваць з пасрэдным рэжысёрам. Некалькі аператараў пакінулі «Беларусьфільм» менавіта з-за адсутнасці цікавай работы.

Трэба кожнаму працаўніку кінастудыі павысіць патрабавальнасць да сябе, сказаў Ю. Марухін, трэба наладзіць сапраўдныя творчыя кантакты паміж рэжысёрамі, аператарамі, мастакамі, акцёрамі. І калі павысіцца якасць работы студыі, адпадзе патрэба шукаць вінаватых—напрыклад, крытыкаў. Бо незалежна ад таго, прафесійна ці непрафесійна пішуць рэцэнзенты, не крытыка вінаватая ў тым, што выпускаюцца дрэнныя фільмы.

Размову пра ўвасабленне сучаснай тэмы на экране працягваў рэжысёр І. Дабралюбаў. Аб тым, як нялёгка ствараць фільмы пра сённяшні дзень, сказаў ён, сведчыць хаця б той факт, што нават вялікія майстры экрана рэдка бяруцца за гэта. Трэба, працягвае І. Дабралюбаў, засяродзіць увагу сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі на сцэнарыях, прысвечаных нашым сучаснікам, больш прадумана планаваць работу над сцэнарыямі, наладжваць цесны кантакт калегіі і сцэнарыстаў з рэжысёрамі. Рэжысёрам і сцэнарыстам належыць не толькі дасканала валодаць майстэрствам, але яшчэ і быць палітыкамі, філосафамі. Кіно павінна актыўна змагацца супраць уплыву буржуазнай ідэалогіі на свядомасць нашых людзей.

І яшчэ адну праблему закрануў прамоўца—праблему акцёрскіх кадраў на кінастудыі «Беларусьфільм». Трэба як мага хутчэй наладзіць дамоўленасць паміж Міністэрствам культуры БССР і рэспубліканскім Камітэтам па кінематаграфіі, каб студыя мела магчымасць запрашаць артыстаў тэатраў рэспублікі і студэнтаў тэатральна-мастацкага інстытута на здымкі ў кіно.

Галоўным клопатам Саюза кінематаграфістаў, сказаў кіназнаўца В. Смаль, з'яўляецца павышэнне ідэйнай і мастацкай якасці фільмаў. Можна шмат спрачацца пра той ці іншы фільм, але факт застаецца фактам: большасць карцін нашай студыі не ўзнімаецца вышэй сярэдняга ўзроўню. Студыя «Беларусьфільм» даўно перастала быць першаадкрывальніцай новых тэм, арыгінальных характараў. Сярод прычын гэтага, на думку прамоўцы, адсутнасць на студыі сапраўднай творчай атмасферы. Занадта часта тут адшукваюць усялякія «аб'ектыўныя» прычыны, каб абгрунтаваць тую ці іншую няўдачу, замест таго, каб глыбока і ўсебакова прааналізаваць пралікі і памылкі, што прывялі да стварэння слабага фільма.

Аб надзённай задачы, якая стаіць перад аб'яднаннем тэлевізійных фільмаў—стварэнні сталага прафесійнага калектыву—гаварыў мастацкі кіраўнік гэтага аб'яднання А. Карпаў. У дакладзе гаварылася, што ў аб'яднанні працуе шмат спецыялістаў. Гэта сапраўды так. На жаль, большасць з іх прыходзяць да нас тады, калі знаходзяцца ў творчым прастоі ў іншых аб'яднаннях. Альбо нам прысылаюць моладзь на «пробу сіл». Мы не супраць моладзі, але хацелася б, каб найбольш здольных з іх потым не забіралі іншыя аб'яднанні, каб у нас працавалі людзі, якія любяць тэлебачанне і разумеюць яго спецыфіку.

— Усё часцей супастаўляюцца два аб'яднанні нашай студыі—дакументальнае і мастацкае,—сказала кіназнаўца В. Нячай.—Гэта невыпадкова. Калі з мастацкіх фільмаў толькі асобныя стаяць на здавальняючым узроўні, то ў «Летапісе» не спыняецца творчы пошук. І ён дае свой плён. Хоць узровень дакументальных фільмаў не аднолькавы, але героі іх—яркія, цікавыя людзі, якія могуць служыць прыкладам для пераймання.

В. Нячай адзначыла і работу рэспубліканскай тэлестудыі, якая ў апошні час таксама стварыла некалькі цікавых фільмаў. Удачай беларускага тэлебачання, на яе думку, з'яўляецца фільм «Лісты да жывых» Л. Браслаўскага і С. Фрыда і «Я чую вестку» Г. Коласа і Ул. Арлова.

— На з'ездзе прагучалі папрокі ў адрас артыкула «Беларусьфільм» — учора, сёння, заўтра», напісанага мною ў суаўтарстве з А. Гантманам і надрукаванага ў газеце «Літаратура і мастацтва», — сказала В. Нячай.— Здзіўляе, што работнікі студыі берaглі гэтыя заўвагі да з'езда, а не выказалі іх на газетных старонках, якія былі шырока прадастаўлены ўсім жадаючым удзельнічаць у дыскусіі.

Дырэктар Беларускага аддзялення Бюро прапаганды савецкага кінамастацтва А. Іваноў расказаў прысутным, як прапагандуюцца ў рэспубліцы лепшыя творы савецкага кінамастацтва, дасягненні кінематаграфіі сацыялістычных краін.

На сённяшнім становішчы беларускай кінахронікі засяродзіў увагу аператар Е. Сакалоў. Калі раней выпускалася 36 кіначасопісаў «Савецкая Беларусь», дык цяпер іх колькасць скарацілася ўтрая. Усталявалася думка, нібы кіно не можа ўгнацца за тэлебачаннем у сэнсе аператыўнасці. Жыццё наша такое багатае, што ўсім кінажурналістам хопіць падзей, аб якіх неабходна расказаць з экрана. Выклікае здзіўленне, што ў наш час бурнага тэхнічнага прагрэсу на «Беларусьфільме» спыніў сваё існаванне часопіс «Навука і тэхніка». Прамоўца прапанаваў, каб кіраўніцтва студыі забяспечыла больш рытмічную работу хранікёраў, каб кваліфікаваныя кадры не гублялі прафесійны вопыт і майстэрства.

Пісьменнік А. Асіпенка гаварыў аб неабходнасці наладзіць сапраўдныя творчыя сувязі паміж кінастудыяй і Саюзам пісьменнікаў БССР. Вопыт паказвае, што такая садружнасць дае плённыя вынікі. Добра зарэкамендавалі сябе ў якасці сцэнарыстаў Аркадзь Куляшоў, Аркадзь Маўзон, Васіль Быкаў, Анатоль Вялюгін, Кастусь Губарэвіч і іншыя. Хацелася б, каб гэты спіс у самы бліжэйшы час быў падоўжаны.

Галоўны рэдактар «Тэлефільма» Беларускага тэлебачання Р. Глухоўскі выказаў здзіўленне, што ў дакладзе наогул не знайшлося месца для ацэнкі дзейнасці гэтай вялікай арганізацыі. Беларускае тэлебачанне перыядычна трансліруе перадачы на ўсесаюзны і зарубежны экран, і яго аўдыторыя часам дасягае 70 мільёнаў чалавек. Прытым калектывам не так ужо мала зроблена. На рахунку «Тэлефільма» такія сур'ёзныя рабо-



Гэтыя здымкі зроблены ў час перапынкаў паміж пасяджэннямі з'езда. Злева—народны артыст СССР З. Стома, рэжысёр В. Чацверыкоў, дырэктар фільма А. Жук, рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР С. Сплашноў. Справа — мастак Я. Ігнацьеў, аператары Ю. Марухін і Д. Зайцаў, госця з Масквы М. Піліхіна.

Фота Ул. КРУКА.

ты, як «Крах», «Трывожнае шчасце», «Людзі на балоце». Цяпер не толькі кіно ўзбагачае тэлебачанне, але і тэлебачанне аказвае значны ўплыў на кіно. І несправядліва, што Саюз кінематаграфістаў Беларусі не падтрымлівае належных творчых сувязей з тэлебачаннем, а абласныя тэлестудыі наогул выпалі з-пад яго ўвагі.

Сцэнарную праблему закрануў у сваім выступленні галоўны рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі студыі «Беларусьфільм» М. Лужанін.

— У нас ёсць пра што пісаць,— сказаў ён.—Пра тое, кім быў наш чалавек і кім ён стаў, пра ўдзельнікаў вялікай усенароднай барацьбы з фашызмам, пра першапраходцаў Салігорска і нафтавікоў Палесся. Мы ў даўгу перад людзьмі розных нацый, якім роднай стала Беларусь. Гэта—дружба народаў у дзеянні. Яна пашырае традыцыйныя рамкі паняцця нацыянальнай самабытнасці. Адлюстроўваць сённяшняе кіпучае жыццё ва ўсёй яго шматграннасці—на гэта накіраваны намаганні ўсіх творчых работнікаў студыі. Пралікі і недахопы непазбежныя ў такой складанай справе. Таму хацелася б, каб крытыка часцей заўважала тое добрае, што ёсць на студыі.

Аб вялікай рабоце, якая вялася на студыі паміж двума з'ездамі, расказаў у сваім выступленні намеснік старшыні Дзяржаўнага Камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі, дырэктар студыі «Беларусьфільм» Ул. Іваноўскі.

— У справаздачным дакладзе на XXVII з'ездзе КПБ таварыш Машэраў гаварыў, што за апошнія гады на студыі выпушчана некалькі карцін аб партызанскай барацьбе, але іх пастаноўшчыкі распрацавалі далёка не самыя важныя аспекты гэтай тэмы,—сказаў Ул. Іваноўскі.—Сапраўды, нарадзілася і вырасла новае пакаленне людзей, якое не ведае вайны, і вельмі важна данесці да яго праўду аб гераічных справах нашых бацькоў і старэйшых братоў. Тым больш, што нашы ідэалагічныя праціўнікі робяць усё, каб зменшыць вялікі подзвіг савецкага народа.

Кінастудыя працуе зараз над сяміссерыйным фільмам «Руіны страляюць» (рэжысёр В. Чацверыкоў) аб подзвігу Мінскага падполля. Рэжысёр Б. Сцяпанаў здымае фільм «Бацька», прысвечаны жыццю і подзвігу Мікалая Шмырова. Свой уклад у гераічную кінаэпапею робяць і дакументалісты.

У спрэчках па дакладзе таксама выступілі рэжысёры І. Вейняровіч, П. Васілеўскі, галоўны рэдактар студыі «Беларусьфільм» Г. Таран.

**І ў прамовах пасля даклада, і ў самім дакладзе шмат гаварылася пра тое, што «Беларусьфільм» выпускае пасрэдныя фільмы, запускае ў вытворчасць яўна рамесніцкія сцэнарыі. Ацэнкі, дадзеныя на з'ездзе асобным стужкам нашага мастацкага кінематографа, часцей за ўсё цалкам супадалі з тымі, што даваліся тым жа стужкам на старонках перыядычнага друку рэспублікі, у тым ліку ў газеце «Літаратура і мастацтва». Тым не менш у адрас газет часам кідаліся неабгрунтаваныя папрокі ў суб'ектывізме, у недасведчанасці і г. д. Дырэктар «Беларусьфільма» Ул. Іваноўскі паспрабаваў адвесці ад студыі ўсе крытычныя заўвагі, абвінавацію, напрыклад, аўтараў артыкула «Беларусьфільм»—учора, сёння, заўтра» (гл. «Літаратуру і мастацтва» за 8, 15 і 22 студзеня 1971 года) А. Гантмана і В. Нячай у неаб'ектыўным аналізе дзейнасці студыі, сказаў, быццам пасля таго, як названы артыкул быў надрукаваны, рэжысёр І. Дабралюбаў падаў заяву аб выхадзе з рэдкалегіі газеты. Аднак далейшае абмеркаванне артыкула «Беларусьфільм — учора, сёння, заўтра» чытачамі і кінематаграфістамі (частка матэрыялаў гэтага абмеркавання была апублікавана на старонках «ЛІМа» 5 сакавіка г.г.) толькі пацвердзіла слушнасць асноўных крытычных заўваг у адрас «Беларусьфільма». Заявы ж І. Дабралюбава ў рэдакцыі наогул не было.**

**Крытыка — люстра мастацтва. Правільна адзначалася ў справаздачным дакладзе праўлення Саюза кінематаграфістаў Беларусі: «Сапраўды, мы можам прад'явіць прэтэнзіі да работнікаў пракату, у дзейнасці якіх нямала недахопаў, але ці не правільней будзе, у першую чаргу, прад'явіць прэтэнзіі сабе і сур'ёзна задумацца над тым, чаму глядач не заўсёды ходзіць на нашыя фільмы?» Трапна і слушна сказана—правільней будзе задумацца студыі «Беларусьфільм» пра гэта. І тады, калі хтосьці шукае вінаватых у сваёй няўдачы сярод пракатчыкаў, і тады, калі шукаюць гэтых вінаватых сярод рэцэнзентаў-журналістаў, якія прынцыпова і добразычліва гавораць дзеячам кіно, што зроблена імі на высокім узроўні, а што ўліваецца ў прыкры паток шэрых стужак.**

**Прыемна, што на з'ездзе задавалі тон галасы тых практыкаў кіно і кіназнаўцаў, якія бачаць і разумеюць сапраўдныя прычыны адставання беларускага мастацкага кінематографа ад патрабаванняў сучаснасці.**

З прывітаннямі да беларускіх кінематаграфістаў звярнуліся народны артыст СССР, рэжысёр А. Зархі, намеснік старшыні Камітэта па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР А. Барынаў, рэжысёр студыі імя А. Даўжэнкі С. Наўроцкі і рэжысёр Рыжскай кінастудыі Р. Калнінь.

З'езд прыняў рашэнне, у якім кінематаграфісты Беларусі выказалі сваю гатоўнасць зрабіць усё магчымае, каб выканаць высокі абавязак перад партыяй і народам.





# НЕ СТАРЭЮЦЬ ДУШОЙ ВЕТЭРАНЫ

**ПАВОЛЬНА адкрываецца заслона. На сцэне—хор ветэранаў працы. Хто не ведае яго ў Мінску ды і не толькі ў нашай сталіцы?! Хто не захапляўся майстэрствам яго спевакоў!**

**А іх нямала—больш за восемдзесят. Можна пазайздросціць энергіі, адданасці і... узросту ветэранаў. Сярэдні ўзрост харыстаў пяцьдзесят пяць гадоў. А той-сёй ужо размяняў і дзявяты дзесятак.**

**У многіх спевакоў на грудзях гараць ордэны, медалі—даніна пашаны за працу на карысць Радзімы, якой яны аддалі не адзін дзесятак гадоў, а цяпер, на схіле жыцця, аддаюць людзям цяпло сваіх сэрцаў.**

**Хто ж яны, гэтыя нязмерымслівыя аматары вакальнага мастацтва? У хоры займаюцца людзі розных прафесій. Больш за ўсіх педагогаў. Вось метадыст Мінскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў, заслужаная настаўніца БССР Рэгіна Карлаўна Бабковіч з мужам Іванам Фёдаравічам, былым дырэктарам школы, заслужаныя настаўніцы БССР Зінаіда Сцяпанаўна Жгун, Надзея Елісееўна Кацько і іншыя.**

**Захапляюцца спевамі бухгалтар Міністэрства сельскай гаспадаркі, інвалід Вялікай Айчыннай вайны Іосіф Ігнатавіч Руткоўскі, персанальная пенсіянерка Марыя Паўлаўна Рагожнікава, юрыст Елізавета Фёдараўна Кузняцова, былы марак Дзмітрый Мітрафанавіч Шастакоў. Мне даводзілася бачыць, як усе прысутныя ў зале ўставалі, калі Дзмітрый Мітрафанавіч выконваў «Бухенвальдскі набат». Так хвалявала песня!**

**Кіруе калектывам на грамадскіх пачатках Мікалай Дзмітрыевіч Прысёлкаў. У яго за плячыма не малы вопыт і веды. Шмат гадоў працаваў ён дацэнтам кансерваторыі ў Ташкенце, потым галоўным хормайстрам у Беларускім акадэмічным тэатры оперы і балета.**

**У рэпертуары хору любімыя песні Уладзіміра Ільіча, песні часоў грамадзянскай вайны, творы савецкіх кампазітараў.**

**Ветэраны выступаюць не толькі ў Палацы культуры прафсаюзаў. Яны частыя госці на заводах, у школах. Вельмі ўдзячны ім рабочыя трактарнага завода, камвольнага і тонкасуконнага камбінатаў, саўгаса «Лошыца 1-я», калгаснікі Дзяржынскага раёна, жыхары Барысава і іншых гарадоў Міншчыны.**

**Сёлета харавы калектыў падрыхтаваў літаратурна-музычную кампазіцыю «Этапы вялікага шляху», якая прысвечана XXIV з'езду нашай партыі.**

**Г. ВІНАГРАДАЎ.**

Фота Ул. КРУКА.

# НА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ РЭЙКАХ

**НАДРУКАВАНА ў «Полымі»**

У КРАСАВІКУ мінулага года на сустрэчы з чытачамі ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна Іван Шамякін сказаў, што яго ў апошні час вельмі зацікавіў адзін малавядомы дакумент—тэлеграма Леніна, якую ён пасылаў 6 ліпеня 1918 года камісару станцыі Орша. Тады ж пісьменнік выдаў сакрэт, што ён збірае матэрыял аб тых падзеях, што адбыліся на вузлавой станцыі і на аснове якіх хоча напісаць кінасцэнарый.

І вось у першай кніжцы «Полымя» і трэцім нумары часопіса «Наш современник» за гэты год з'явілася кінааповесць «Эшалон у Германію». Зразумела, што да такога твора, пра які ўжо ў нейкай ступені ведаў раней, выпрацоўваюцца асаблівыя адносіны: хочацца даведацца, якое ўвасабленне ў мастацкай форме знайшла першапачатковая задума аўтара, як будаваўся сюжэт, як вызначыліся галоўныя і пабочныя лініі. Выклікае цікавасць і тое, што ў аснову твора кладзецца дакладны дакумент, які стаў набыткам гісторыі, і што, безумоўна, узнавіць карціну паўвяковай даўніны — справа надзвычай нялёгкая. Акрамя гэтага — цікава, як праяўляецца талент пісьменніка ў гэтым новым для яго жанры — кінааповесці, хаця мы і ведаем, што І. Шамякін не навічок у кінематографе.

Калі паспрабаваць коратка пераказаць змест кінааповесці «Эшалон у Германію», то ён укладзецца літаральна ў некалькі радкоў: са станцыі Орша накіроўваецца эшалон з хлебам у Германію (36 вагонаў) для бедствуючых рускіх ваеннапалонных. Гэты эшалон з хлебам затрымліваюць эсэры. Яны хочуць справакаваць бальшавікоў, падбухторваюць народ на дэманстрацыю пратэсту. Маўляў, і так хлеба няма, а мы 30 тысяч пудоў адвальваем немцам, бо рускім ваеннапалонным ён не пападзе. Пра гэта даведваецца Уладзімір Ільіч, прымаюцца неабходныя захады для ліквідацыі гнюснай правакацыі эсэраў. Менавіта гэты факт і дапамог пісьменніку глыбока асэнсаваць адзін са складаных і напружаных момантаў барацьбы партыі бальшавікоў за Савецкую ўладу напярэдадні пятага з'езда Саветаў.

У цэнтры ўвагі аўтара — людзі, іх разуменне таго становішча, якое склалася ў сувязі з заключэннем мірнага дагавору з Германіяй. Галоўную ідэйную нагрузку ў кінааповесці нясуць два вобразы — камісар станцыі Орша Даніла Івашчанка і былы прапаршчык царскай арміі Аляксандр Лукашэвіч, які вярнуўся з нямецкага палону. Выпісаны гэтыя вобразы з вялікай любоўю і ашчаднасцю. Калі для Івашчанкі рэвалюцыя — гэта сэнс і змест яго жыцця, калі справе Леніна і партыі ён адданы моцна і да канца і нікуды ні пры якіх умовах не зверне з бальшавіцкага шляху, словам, калі гэта натура цэльная і загартаваная ў рэвалюцыйнай барацьбе, то Лукашэвіч — як бы на парозе грамадзянскага станаўлення. Праўда, першыя ўрокі рэвалюцыі ён атрымаў яшчэ ў акопах, прыслухоўваючыся да размоў членаў салдацкіх камітэтаў. У палоне яшчэ больш адчувальна спазнаў Лукашэвіч гора, якое перажывала тады Расія, знясіленая вайной і голадам. Там жа ён з прыкрасцю пераканаўся, што не ўсе глядзяць на Расію з надзеяй, што некаторым палонным афіцэрам парадак, які ўсталёўваюць бальшавікі, вельмі не падабаецца. Вызначыць правільныя адносіны да маладой Савецкай рэспублікі, разабрацца ў гэтай складанай і супярэчлівай сітуацыі дапамагае прапаршчыку стары рускі афіцэр палкоўнік Яхантаў, які, зразумела, быў больш дасведчаны ў дзяржаўных справах, а галоўнае — быў патрыётам сваёй радзімы і ставіўся са спагадай да інтарэсаў народа, яго запатрабаванняў. Пасля чарговага абмену ваеннапалонных вяртаецца Лукашэвіч да бацькоў—на станцыю Орша. Вірлівы калаўрот падзей хутка захоплівае яго, вымагае больш прынцыпова акрэсліць погляды на рэчаіснасць, заняць пэўную пазіцыю ў гэтай жорсткай і не заўсёды адкрытай класавай барацьбе. Эсэры імкнуцца адразу перацягнуць Лукашэвіча на свой бок, даць яму якое-небудзь канкрэтнае даручэнне, але напачатку ён павінен засвоіць іх «ідэю», прасякнуцца іх перакананнямі. Аднак—надта ж не прыкрыта кідаецца ў вочы іх хабарніцтва і кар'ерысцкая мэта, эгаізм, іх прага да ўлады. Эсэры ідуць на змову з нямецкай буржуазіяй, спекулююць хлебам, наводзяць блытаніну ў дакументацыі. Усё гэта робіцца з адным разлікам — справакаваць бальшавікоў. Так, не хутка развенчвае сябе сваімі антырэвалюцыйнымі ўчынкамі намеснік начальніка павятовай ЧК — Рам, не адразу выкрываюцца варожыя адносіны да Савецкай улады старшыні перадатачнай камісіі Ніткоўскага і іншых левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Выспяванне бальшавіцкай свядомасці ў Лукашэвіча ідзе хоць знешне і павольна, але актыўна. Пісьменнік ставіць яго ў такія абставіны, што ён увесь час павінен прымаць рашэнні самастойна, цвяроза вызначыць сваю ролю ў супярэчлівых сітуацыях. Справа яшчэ ўскладняецца і тым, што Лукашэвіч моцна кахае тэлеграфістку Юлю — дачку Ніткоўскага.

Канчатковы пераход былога царскага афіцэра на бок рэвалюцыі, партыі бальшавікоў — лагічнае завяршэнне ім нялёгкага пошуку той адзінай дарогі да ленінскай праўды і справядлівасці.

У станаўленні ідэйных поглядаў Лукашэвіча, правільнай ацэнцы ім складанага моманту многім дапамагаюць камісар станцыі Івашчанка, стары машыніст Ян Карлавіч—сакратар ячэйкі ды і сам бацька Лукашэвіча, які раней працаваў на тэлеграфе і быў у прыяцельскіх адносінах з Ніткоўскім. Рэвалюцыя размежавала гэтых двух, як аказалася, розных па чалавечай сутнасці служачых. (Ніткоўскі быў дыспетчарам).

Месца, якое адведзена ў кінааповесці вобразу Леніна і яго паплечнікам, невялікае. Нават, здаецца, эпізадычнае. Але якім важкім зместам напоўнена сцэна, дзе ён атрымлівае тэлеграму з Оршы, як, здавалася б, у нязначным факце правадыр пралетарскай рэвалюцыі ўбачыў небяспечную пагрозу народнай справе, заваёве Кастрычніка. Пісьменнік як быццам нічога новага і не дадае да партрэта Леніна: звыклыя і вядомыя нам з многіх мастацкіх і дакументальных рэчаў рухі, манера выказваць свае думкі, незвычайная назіральнасць, цікавасць да любой падзеі — усё ж прысутнасць яго адчуваецца на працягу ўсяго твора.

Нябачная, але моцная духоўная сувязь яднае Івашчанку і Лукашэвіча, і вытокі гэтай сувязі цягнуцца ў Маскву — рабочы кабінет Леніна. На прыкладзе гэтых герояў аўтар як бы сцвярджае думку, што ў той этапны для нашай краіны час ідэі пралетарскай рэвалюцыі праходзілі праз сэрцы людзей, яднаючы іх у адну магутную і непераможную сілу.

Новы твор І. Шамякіна — кінааповесць «Эшалон у Германію» — напісаны з грунтоўным веданнем спецыфікі кінематографа.

Асобныя сцэны захапляюць трапным кінематаграфічным вырашэннем. Мантажныя кавалкі змацаваны скразной і трывалай думкай, дзеянне разгортваецца дынамічна, у строгай суаднесенасці з логікай мастацкага мыслення. Ужо ў самым пачатку кінааповесці ў апісанне зусім «мірнай» раніцы на нямецкай зямлі ўплятаюцца трывожныя ноткі. Жорсткасць і нечалавечыя ўмовы ў лагеры ваеннапалонных падкрэсліваюцца сілуэтам голага дрэва, без лісцяў. Лісце з'елі ваеннапалонныя. І гэта прыводзіць у вялікае здзіўленне членаў камісіі Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Так у самой ужо экспазіцыі выкрываецца ўвесь трагізм і жудаснасць крывавай бойні, якая была пачата ў Еўропе імперыялістамі розных дзяржаў...

Думаецца, што з героямі кінааповесці «Эшалон у Германію» мы абавязкова сустрэнемся на экране, яшчэ раз пройдзем дарогай вайны і рэвалюцыі, перажывём разам з імі іх трывогі і клопаты.

**В. ПОЛЯК.**

# І ЎСЁ Ж СКУЛЬПТУРА ЁСЦЬ...



С. Вакар. Партрэт героя грамадзянскай вайны Г. Д. Гая (Бжыжкянца).

РАЗДЗЕЛ скульптуры на выстаўцы запомніўся асобнымі работамі і радуе ўжо тым, што існуе, паколькі ў апошнія гады цікавасць скульптараў да станковай пластыкі стала змяншацца.

Задаюць тон усёй скульптурнай частцы экспазіцыі, дамінуюць у ёй партрэты і невялікія кампазіцыі.

У работу над партрэтам уключыліся самыя маладыя майстры. Мноства новых імёнаў гаворыць аб гатоўнасці моладзі прадоўжыць справу настаўнікаў і сказаць сваё слова аб часе і людзях. Сапраўды, новыя работы вызначаюцца свежасцю поглядаў, сваім разуменнем духоўнай і фізічнай прыгажосці сучасніка. Але разам з тым нявопытнасць выканаўцаў — і прычына таго, што добрыя задумы ў іх яшчэ не заўсёды атрымліваюць дасканалае ўвасабленне.

На выбары мадэляў цікавыя, на мой погляд, такія розныя па ўзроўні, але блізкія сваёй увагай да індывідуальнасці работы, як «Партрэт жанчыны» Г. Гарбанеева і «Партрэт П. К. Шыкаўкі, партызана, удзельніка камуністычнага падполля г. Мінска» У. Булыгі.

«Партрэт жанчыны» Г. Гарбанеева, не вельмі ўпэўнены па выкананні, усё ж прыцягвае правільным разуменнем рысаў сучаснай моладзі. Твар маладой жанчыны нечым нагадвае падлетка, ён стрымана-спакойны. Грубаваты світэр з каўняром буйнай вязкі нібы адцяняе непатрабавальнасць яе густаў. Але гэта прастата ўяўная. Яна расшыфроўваецца як свядома культывуемы стыль чалавека, не толькі знаёмага са спортам, працай, але які намагаецца захаваць уласцівую яго ўкладу жыцця прастату, натуральнасць ва ўсім. Раскрыццю аўтарскай думкі памагае кампазіцыйнае вырашэнне партрэта: прамы зрэз па лініі каўняра, строга франтальнае рашэнне галавы. Такая натуральнасць узгадняецца з характарам паказанага чалавека. Шкада, што, не валодаючы яшчэ патрэбным майстэрствам, аўтар не прымусіў пластычныя формы гучаць на поўную сілу.

Пільным «углядваннем» у мадэль, па-мойму, удала вылучаецца партрэт партызана П. Шыкаўкі работы У. Булыгі. Ад першых, крыху наіўнаўзнёслых і загладжаных па форме партрэтаў маладых людзей Булыга перайшоў да паказу чалавека сталага ўзросту і своеасаблівай знешнасці, змяніўшы манеру лепкі да адпаведнай дадзенаму выпадку — строгай і крыху рэзкай. Канечне, цяжка гаварыць пра падабенства, пакуль не пазнаёмішся асабіста з мадэллю, але здаецца, што нейкая галоўная асаблівасць знешнасці і характару мінскага падпольшчыка аўтарам перададзена. Вельмі ўжо індывідуальны яго авальны твар з вузкім прарэзам вачэй, крыху прыпухлым носам і шчыльна самкнутымі вуснамі — твар стрыманага, умудранага вопытам, але не скупога на пачуцці чалавека. Характарыстыцы вопыту і сілы ўдала служаць масіўныя акругленыя формы падбародка, ілба з чубком валасоў над залысінамі і дугі акуляраў ля нібы прыжмураных вачэй.

Роздумам над вобразам сучасніка стаў і партрэт Р. Шырмы работы І. Міско. У адрозненне ад папярэдніх аўтараў, Міско імкнецца стварыць не індывідуалізаваны, псіхалагічна дакладны і верагодны ва ўсіх дэталях, а абагульнены адухоўлены вобраз, у якім асабістае, прыватнае саступае месца грамадска значнаму. Захоўваючы агульныя рысы партрэтнага падабенства, Міско ўзбуйняе формы і выдзяляе асноўныя аб'ёмы (навіслыя бровы, вусы, бараду, валасы) так, каб стварыць уражанне глыбы, якая асацыятыўна перадае думку аб велічы дзеяча сучаснай беларускай музычнай культуры. У адпаведнасці з задумай аўтар не загладжвае, а наадварот, агрубляе паверхню, робяць падобнай маналітную форму на прыродны матэрыял — камень.

Нарэшце, сярод своеасаблівых работ аб сучасніках можна назваць партрэты «Слаўка» Я. Санько і «Партрэт З. Янчуковіч, дэлегаткі XVI з'езда ВЛКСМ» М. Бяляева. Яны вырашаны ў дэкаратыўным плане, падкрэслена нязвыклыя па форме і маюць на мэце завастрыць нейкую адну, характэрную рысу знешнасці людзей у якой, як у кроплі вады, адлюстроўваўся б увесь характар. Такія работы не прэтэндуюць на асаблівую глыбіню, але робяць больш разнастайнай выяўленчую мову пластыкі.

У пастаяннай трывалай сувязі з жыццём — зарука паспяховага развіцця ўсіх відаў і жанраў мастацтва. Знайсці героя ў паўсядзённым жыцці, паказаць яго прыгажосць, здольнасці, помыслы, імкненні — значыць узбагаціць сябе і гледача тым, без чаго немагчыма далейшае развіццё самой культуры — веданнем патрэб часу. Мне здаецца, прычына халоднасці многіх гістарычных партрэтаў і кампазіцый апошніх гадоў іменна ў адсутнасці ў іх унутраных сувязей з нашымі днямі. Партрэты герояў мінулага, не несучы ў сабе творчага пераасэнсавання тэмы, часта ўспрымаюцца як цытаты ў мастацкім летапісе, а не як жывыя новыя радкі.

З гістарычных партрэтаў, прадстаўленых на выстаўцы, навізной вырашэння вызначаюцца «Партрэт К. Арлоўскага, Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы» У. Хмызнікава і «Партрэт героя грамадзянскай вайны Г. Гая (Бжыжкянца)» С. Вакара.

Хмызнікаў паставіў перад сабой няпростую задачу — на прыкладзе жыцця К. Арлоўскага паказаць жах вайны, выказаць пратэст супраць агрэсіі, насілля, несумяшчальных з паняццямі: жыццё, гуманізм, прагрэс. Партрэт набліжаецца да тэматычнай кампазіцыі ёмкага філасофскага зместу. Работа, характэрная для аўтара, — як бы варыянт яго ранняй кампазіцыі «Сведка абвінавачвання» і, безумоўна, выяўляе прывязанасць выканаўцы да хвалюючай і доўга выношваемай ім думкі.

# СЛУХАЦЬ ДУШОЙ...







ГЭТА вельмі знамянальна, што на выстаўцы, прысвечанай XXVII з'езду КПБ і XXIV з'езду КПСС, мы сустрэліся з вобразамі, навеянымі Купалавай паэзіяй. Няспынна памнажаецца Купаліяна беларускага выяўленчага мастацтва. Паэзія Янкі Купалы — духоўна багатая, сугучная нашаму часу — сапраўды невычэрпная крыніца для мастакоў, крыніца натхнення для палымянай гаворкі пра мінулае і сучаснае беларускага народа, пра яго барацьбу і працу дзеля светлае будучыні.

Вось і на гэтай выстаўцы доўга немагла я адысці ад такога знаёмага аблічча Бандароўны. Праўда, скажу адразу: гэтае адлюстраванне было чымсьці непрывычнае, несла ў сабе нешта такое, міма чаго літаральна немагчыма было прайсці абыякава. Так, гэта ліст, створаны А. Кашкурэвічам. Так, да вобраза Бандароўны, як і да многіх іншых Купалавых вобразаў, графік звяртаецца не ўпершыню. Нядаўна Кашкурэвічаву Бандароўну бачылі мы ў томе твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, выдадзеным «Всемирной литературой». Але ў гэтым, новым, лісце — вастрэй, выразней, канкрэтней яе твар. Агульная кампазіцыя, сам характар — захаваны, як раней. Але — больш вострых, ламаных ліній. І — мноства невідочных змен, ад чаго твор успрымаеш інакш, чым раней.

Мастаку, безумоўна, удаецца знайсці пэўнае суладдзе свайго ліста з паэмай, з яе ўнутраным паэтычным светам, сканцэнтраваным ва ўсім тым, чым жыве Бандароўна. Мы прачытваем у творы мастака многае. І перш за ўсё думаем пра горды, свабодалюбны характар Бандароўны. Нам балюча, што дзікая пагоня даганяе яе. Вось кажаны — гэтыя сімвалы цёмнай, бязлітаснай варожай сілы — ужо крануліся яе, заблыталіся ў валасах. Найвялікшае напружанне ўсіх сіл і... безнадзейнасць... Дыяганальная кампазіцыя — фігура ля самага краю ліста — спрыяе дынаміцы твора, спрыяе яго шматлікім эмацыянальным акцэнтам. Бандароўна ў Кашкурэвіча — бы ў кашмарным сне, калі бяжыць чалавек ужо з усіх сіл, амаль ляціць у паветры, але адчувае, што руху ўжо няма і крыку ягонага не чуваць, бо крык застрае ў горле, не можа вырвацца...

Лініі неспакойныя, напружаныя. Плямкі колеру — бы языкі полымя, якое ахапіла Бандароўну. І няма ні зямлі пад нагамі, ні неба над галавой...

Мне здаецца, у гэтым лісце быццам сфакусіравана ўсё галоўнае, што нараджаецца ў нашай душы пад уплывам Купалавага твора: неадольнасць бяды, якая насцігае Бандароўну, і яе надзея, яе рашучы парыў да свабоды. Вось зараз яна будзе схоплена. Але — не будзе зломлена. Высакароднасць яе душы адчуваеш ва ўсім графічным ладзе твора. Разглядаючы ліст, прасочваючы адценні графічнай мовы, ізноў міжволі вяртаешся да твару Бандароўны.

Праўда, мушу зазначыць, што твар Бандароўны ў паказаным на выстаўцы лісце падабаецца мне менш, чым ледзь намечаны, з прыадкрытым ротам яе твар у ілюстрацыі да кнігі. Можа, таму, што ў новым творы ёсць нейкая наўмысная «сённяшнасць». Праўда, і на гэта, мабыць, мастак меў падставы, імкнучыся наблізіць некаторымі гранямі вобраз да нас, да нашага часу, які патрабуе ад чалавека бескампраміснасці, рашучасці ва ўсім, што датычыць пачуцця, волі.

А. Кашкурэвіч паказаў на выстаўцы яшчэ шэсць лістоў літаграфій на тэмы Купалавых твораў. Матывы амаль усіх знаёмы нам па памянёным выданні «Всемирной литературы». А вобраз Князя створаны на аснове асобнага выдання «Кургана», аформленага А. Кашкурэвічам і ўзнагароджанага дыпломам другой ступені і медалем Ф. Скарыны (1967).

Калі я гляджу на Князя — прыгадваю словы мастака:

— Цяжкасці, з якімі сустракаешся, спрабуючы перакласці на мову графікі мову Купалавай паэзіі, — неймаверныя. З аднаго боку, трэба пазбегнуць стылізацыі, бутафорыі. А з другога — не страціць пачуцця часу. Трэба знайсці надта ж дакладны сплаў старадаўнасці і сённяшняга яе ўспрыняцця...

Так, сапраўды, кожнае пакаленне па-свойму прачытвае Купалу. Бо да кожнага ён звяртаўся...

У новым варыянце «Князя» — магутная сіла. Шырокія плечы пакрыты звярынай шкурай. Грудзі закаваны ў латы. Уражанне чагосьці цяжкага, халоднага, бліскучага і жорсткага. Суровы, непрыступны валадар замка, вакол якога — сірочыя слёзы, людская кроў, кайданы. І побач — плачуць струны жывыя лірніка, бо не скуеш дум панскімі ланцугамі.

Гусляр... Той самы, з якім Князь расплаціўся, жыўцом закапаўшы ў зямлю за ягоныя спевы аб волі народнай, аб справядлівасці. Ён узнікае перад гледачом, бы легенда. Фон ліста — туманам, які растае. І на гэтым фоне — стары з белаю барадою, якая развяваецца, сам увесь белы, з незвычайным агнём у задуменных вачах. І ў той жа час колькі рэальнага, канкрэтнага, зямнога ў гэтым прывідзе — у выразных контурах «гусляў-баяў», у худых пальцах народнага музыкі...

ТОЙ дзень, калі я прыйшла, у тэатры ішла першая сцэнічная рэпетыцыя спектакля «Хто смяецца апошнім», які ўзнаўляў на купалаўскай сцэне Леанід Рыгоравіч Рахленка. Прыбіральшчыца цёця Каця (Л. Ржэцкая) і дворнік Нічыпар (П. Пекур) вялі сваю «навуковую дыскусію» аб праблемах палеанталогіі...

— Працуюць, кажаш, і смаку не чуюць? — пытае Нічыпар сваю цікаўную калегу.

— У Крапівы, здаецца, інакш, — спыняе рэжысёр. — «Кажаш, працуюць і смаку не чуюць». Зінаіда Канстанцінаўна, праверце, калі ласка...

ПРА ТЫХ, КАГО НЕ БАЧЫЦЬ ГЛЯДАЧ

# «КАРАБЕЛЬ У НАДЗЕЙНЫХ РУКАХ...»

Зінаіда Канстанцінаўна Скачкоўская як заўсёды, на сваім месцы — ля пульта памочніка рэжысёра. Яна ўважліва слухае рэжысёрскія ўказанні, падкрэслівае асобныя рэплікі ў тэксце п'есы, робіць заўвагі на палях — так занатоўваецца партытура, па якой потым зможа весці спектакль не толькі яна сама, але і іншы памочнік рэжысёра.

Весці спектакль... На рэпетыцыях усё падначалена рэжысёру — ад вядучых артыстаў да рабочых сцэны. Але калі пачынаецца прадстаўленне, ён сядзіць у глядзельнай зале і не можа ўплываць на ход спектакля. У гэты час уся адказнасць ляжыць на памочніку рэжысёра, які выклікае на сцэну акцёраў, кіруе зменай дэкарацый, падае сігналы асвятляльнікам, радыстам, аркестру і г. д. і г. д. Словам, цяжка пераацаніць яго ролю, хоць многія гледачы нават не ведаюць, колькі напружанай увагі аддае ім штовечар чалавек, аб якім паведамляе ў канцы праграмкі сціплы радок: «Спектакль вядзе З. Скачкоўская».

— Не толькі гледачы, а і некаторыя журналісты, якія пішуць пра тэатр, — зазначае Зінаіда Канстанцінаўна.

Наша размова з ёю адбываецца ў час перапынку.

— Памятаю, быў такі выпадак. У «Паўлінцы» на сцэне стаіць не бутафорская, а сапраўдная вараная бульба. А куды яе дзець пасля спектакля? Каб не выкідаць дабро на сметнік, я звычайна выношу яе ў сквер — падкарміць птушак. Адзін карэспандэнт, які ўбачыў гэта, напісаў у сваёй газеце: «Спектакль закончаны — памочнік рэжысёра З. Скачкоўская ўжо нясе бульбу са сцэны». Нібыта менавіта гэта і ёсць святы абавязак памочніка...

З павагай і разгубленасцю недасведчанага чалавека гляджу на шматлікія кнопкі пульта кіравання.

— Глядзіце — націскаю гэту, і круг сцэны паварочваецца ўлева, гэту — управа. Вось званок для публікі, вось розныя па гучнасці званкі тэлефонаў, якія часта патрабуюцца па ходзе дзеяння... Выбачайце, таварышы, я проста захапілася, паказваючы сваю гаспадарку (гэта — акцёры, якія, пачуўшы званкі, імгненна занялі свае месцы на сцэне). Святло ў зале, святло на сцэне, сігнал аркестру, сігнал радыстам...

— І як у вас на ўсё хапае ўвагі? —пытаюся я.— Можна ж пераблытаць адну-адзіную кнопку — і сарвецца спектакль.

— Нельга. У тым і справа, што нельга пераблытаць. Толькі цвёрда засвоіўшы гэтую простую ісціну, можна быць памочнікам рэжысёра.

І ў той жа час Зінаіда Канстанцінаўна заўсёды з радасцю заўважыць свежую фарбу ў ігры таго ці іншага акцёра, цікава знойдзеную інтанацыю і ў антракце не забудзецца сказаць яму пра гэта, павіншаваць з удачай. А часам і параіць «замацаваць» у ролі знойдзенае сёння.

Усе мы добра памятаем сцэну з «Лявоніхі на арбіце», дзе Лушка — Макарава чытае ўголас «Мадам Бавары», а Лявону, які завіхаецца па гаспадарцы і адчайна пратэстуе супраць паводзін жонкі: коратка кідае:

— Культуру павышаю!

Кожны раз гэтыя словы суправаджаюцца выбухам смеху ў зале. Але быў нейкі час, калі гледачы пачалі прымаць іх даволі холадна — актрыса нешта згубіла ў сваёй ігры. Зінаідзе Канстанцінаўне, якая памятала спектакль да драбніцы, удалося нагадаць Макаравай яе ранейшыя інтанацыі, міміку, і сцэна зноў ажыла, заіскрылася і выклікае бурную рэакцыю публікі.

— Калі канчаецца спектакль, заўсёды падбяжыш да Скачкоўскай— «Зіна, ну як я сёння?»— расказвае Галіна Макарава. — Мы, акцёры, высока цэнім мастацкі густ Зінаіды Канстанцінаўны, таксама як і яе сардэчную дабрату.

Каля сарака гадоў працуе Зінаіда Канстанцінаўна ў купалаўскім тэатры. Займала розныя пасады, і на кожнай была патрэбным і карысным чалавекам. Але менавіта за пультам памочніка рэжысёра, бадай, знайшла яна тое, аб чым мы часта гаворым, расказваючы аб вялікіх людзях, і значна радзей—у дачыненні да сціплых радавых працаўнікоў: сваё прызванне.

— Гэта проста шчасце для тэатра — мець такога памочніка рэжысёра— гаворыць Леанід Рыгоравіч Рахленка. —Стварыўшы спектакль, рэжысёр пускае яго ў жыццё, як суднабудаўнік карабель у адкрытае мора. І тут ужо на капітанскі мосцік становіцца памочнік рэжысёра. Калі на ім Зінаіда Канстанцінаўна — можна не хвалявацца: карабель у надзейных руках.

**Святлана КЛІМКОВІЧ.**

---

УЖО З ДЫПЛОМАМ, як кажуць, на руках, не дабыўшы свой законны, месячны адпачынак, прыйшла Валя Макавецкая ў сталеплавільны цэх інжынерам-тэхнолагам. Першы дзень на самастойную працу.

У гэтым цэху яна адбывала практыку. Прывыкла да ўсяго, здружылася з людзьмі. Закахалася ў Лёню Цярэшку, студэнта-вячэрніка, яшчэ другакурсніка, які ведаў тут усё да драбніц, вадзіў яе некалі па заводзе, расказваў чутае і бачанае—чараваў, прывязваў дзяўчыну да шумнагрымотных гмахаў, да сябе,—мусіць, назаўсёды.

Летам, у канцы чэрвеня, перад самым ад'ездам Валі да бацькоў у вёску, Лёню споўнілася дваццаць, добрая палова з якіх—цэхавы «стаж» Лёні.

Здарылася гэта так.

Рослая, сама ў сіле і красе, вельмі ж заўчасна, раптоўна, нечакана памерла маці. Прыйшла з работы, прыгатавала вячэру—потам уся аблівалася, прылегла на канапку. Заплюшчыла вочы. І хоць бы слова катораму з іх сказаць...

Павячэраўшы, зайшлі ўдвух, бацька з сынам, у спальню, спытаць, як яна сябе адчувае. Яна была ўбялелая, халодная, нежывая.

Плакаў бацька. Лёня, маўклівы і зацяты, сядзеў у галовах маці, гладзіў рукою з чарнілам на пальцах—не паспела яна вымыць рукі перад сном свайму другакласніку—яе лоб, шчокі, наганяючы нявытрымнага жалю, горкіх слёз на астатніх...



Валянцін **МЫСЛІВЕЦ**

пеставала сына, і ўшчувала, рабіла з ім урокі— назірала, каб чыста і правільна было. Дзесятак Жэняў, думалася яму, не заменяць сыну роднай маці!

Ён хуценька павярнуўся да канвертара, глядзеў, як бушуе, лавінамі пераліваецца ў кантрольным акенцы расплаўлены, рэдкі, як вада, метал, гатовы ў міржок вока, калі што не так, хлынуць праз гарлавіну вогненнай рванню, заваліць абгаркамі рабочую пляцоўку.

Жэня збольшага паказала цэх, павяла Лёню ў ленінскі пакой.

— Наш тата сядзіць!—узрадаваўся хлапчук, угледзеўшы на дошцы гонару партрэт бацькі.

— Твой...—без захаплення адказала Жэня.— Даставай свае кніжкі, сшыткі.

Яна пасадзіла малога за стол, сама села побач. Маўчыць, глядзіць у акно, як вецер гайдае таполі, абтрасае пакурчаную марозікам лістоту. Марагуе на сваё жыццё Жэня. Дваццаць восем гадоў ёй мінула. А не замужам. У перастарках не доўга застацца. А былі ж хлопцы — добрыя цяпер спецыялісты, вядомыя людзі. І Антон Цярэшка некалі, як пасля тэхнікума васемнаццацігадовай прыйшла ў цэх, заляцаўся: вадзіў ў тэатр, на веранду летам, прыходзіў разоў колькі ў інтэрнат. І падабаўся ёй, а сэрца аддаць не рашылася. Хацелася інжынера, начальніка якога ў мужы. А тыя нешта міналі цэхавага тэхнолага. Пагаворыць каторы вечар, другі. Як дарогу хто перад ім перакапае. А праз паўгода якога, глядзіш, жанаты. Такую гаргарыну вядзе пад руку, што ні твару, ні стану. А жывуць, хваляцца наперабой сямейным ладам...

Выдатніцай была Жэня ў тэхнікуме, круглай пяцёрачніцай. Прарочылі ж ёй будучыню. І сама думала, што пойдзе ўгару на заводзе. Лёгка давалася навука. Так старался яна быць першай у цэху. А работа, што называецца, не клеілася. Тэхналагічная карта, бывала, расписана да драбніц, а сталь не варылася, выплёсквалася з канвертара праз гарлавіну.

# КАНВЕРТАР

*АПАВЯДАННЕ*

— Тата, а дзе мне будзе ўрокі рабіць?—наступным днём за трацінамі, перад адыходам аднаго на работу, другога ў школу, з нечага спытаў Лёня.

— Як дзе?—сумеўся Антон.—Дома. На сваім стале.

— Я баюся дома адзін.

— Ты ж заўсёды пасля школы быў у кватэры адзін.

— А цяпер баюся.

Бацька, крыху падумаўшы, сказаў:

— Пад'ясі ў сталоўцы і прыбяжыш у цэх.

— На прахадной не прапусцяць дзядзькі.

— Скажаш, што ты Цярэшкаў сын.

З таго дня ў Лёні ўсё і пачалося. З баковачкі выйшаў ці не начальнік які, правёў хлапчука ў сталеплавільны. Там ужо ўсё роўна як чакалі яго: майстар уручыў пропуск, малажавая ў твары, прыветная жанчына падала каробку цукерак—заняла малечу гамонкай, за руку, як сына, павяла ў цэх.

Спыніліся непадалёк ад канвертара.

— Пазнавай свайго тату, Лёнічак, — кіўнула яна галавою на грушападобную пасудзіну.

— Няма тут таты.

— Вунь жа, Лёнічак, у жаўтаватай спяцоўцы.

Антон, мусіць, пачуў звонкі, грудны голас табельшчыцы Жэні—імгненна крутануўся да іх, узняў угору засцерагальны шлем, памахаў рукою з вышыні, вітаючы.

— Знайдзі яму дзе куточак, Жэня!—крычаў Антон.—Каб ціха было! Урокі хай робіць, пакуль я тут...

На гэтых словах яму перахапіла горла, заняло дыханне. Зноў успомнілася жонка, якая сама і

Жэню перавялі ў табельшчыцы. Радавая прафесія! А мужа, ні інжынера, ні рабочага, няма...

— Мама...—скараговоркай выпаліў Лёня, пачырванеў, як кажуць, з вушамі, хуценька паправіўся:—Цётка Жэня... Нейкая задача тут... З Масквы і Ленінграда адначасова выйшлі паязды...

— Дай мне сюды задачнік, Лёнічак.

Яна прабегла вачыма ўмову, моўчкі напісала на лістку рашэнне. Лёня збянтэжыўся—маці ніколі не падмяняла яго,—але перапісаў усё ў свой сшытак. Узяў у рукі чытанку, каб зрабіць перапынак, як заўсёды было, паміж арыфметыкай і пісьмовай. А Жэня настойліва, страгавата папрасіла пісаць.

— Дома будзеш бэкаць з бацькам!—так і сказала малому, увяла Лёню ў плач.

З работы яны ішлі ўтраіх—трымалі Лёню за рукі. Лёня ішоў як чужы паміж імі.

За вячэрай ужо бацька ледзь вымусіў малога загаварыць.

— Не буду я, вот, з цёткай Жэняй рабіць урокі,—як не плакаў хлапчук.

— Кусала яна цябе?

—І не буду, вот!

— Слухацца трэба, мой братка, Жэні, калі памагае. Я, ты бачыў, ад канвертара не магу адысці. Гэта ж табе не маці. Калі што і не так...

І Антона здрыганула ўсяго, учуўшы гэтыя, свае словы. У цэху, як адзін, раілі яму сябры і начальства, калі ўляжацца трохі гора, аціхне душа, сыходзіцца з Жэняй. Ды, уласна кажучы, праз морак тугі і непрадбачаных клопатаў гэта думка закрадалася да яго ў галаву і без чужых падказак. Што жаніцца яму трэба, ён ніколі не адмаўляў. Але асцярожны быў, аглядлівы вельмі на сына, каб не асіраціць зусім.

---



Гэты здымак зроблены на адным з заняткаў Уздзенскага універсітэта культуры. У госці да слухачоў прыехалі беларускія пісьменнікі-земляні. Яны расказалі пра свае кнігі, падзяліліся творчымі планамі і задумамі.

Фотааб'ектыў супрацоўніка Уздзенскай раённай газеты «Чырвоная зорка» Міхася Булата занатаваў момант, калі пісьменнікам Лідзіі Арабей, Алесю Якімовічу і Ільі Гурскаму (справа налева) уручае хлеб-соль загадчык раённай бібліятэкі А. Папко.

*З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

# НЯСТОМНЫ ПРАЦАЎНІК НАВУКІ

Беларуская этнаграфія ў дарэвалюцыйны час дасягнула значных поспехаў. Этнаграфічныя веды садзейнічалі больш шырокаму азнаямленню перадавой грамадскасці з культурай і побытам беларускага народа, а культурная спадчына беларусаў стала здабыткам сусветнай культуры. Вядомы імёны рускіх і беларускіх вучоных, якія ўнеслі вялікі ўклад у этнаграфічную навуку Беларусі.

Сярод іх можна назваць і імя Паўла Васілевіча Шэйна, дакументальныя матэрыялы аб якім знойдзены ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР у Мінску. Гэта фармулярныя спісы аб службе, перапіска з папячыцелем Віленскай акругі, дырэкцыяй народных вучылішчаў Віцебскай губерні і іншыя дакументы.

У фондзе Віцебскай мужчынскай гімназіі захаваўся фармулярны спіс аб службе П. В. Шэйна, у ім ёсць такія звесткі: ураджэнец Магілёва, выхаванне атрымаў хатняе. У 1860 г. пры Цвярской гімназіі здаў экзамен на званне хатняга настаўніка нямецкай мо-

Міналіся ў тужлівай, неадыходлівай задуме тыдні, месяцы, гады...

Тым летам, як Лёню споўнілася шаснаццаць, назаўтра ж пасля гулянкі з гэтае нагоды, ён, без ведама бацькі, аформіўся на работу ў цэх, рамонтнікам.

Досвіткам свайго першага рабочага дня Лёня прахапіўся першы. Ці не праспаў, мільганула думка. Бацька нічога не ведае: мог пайсці на работу і яго не разбудзіць.

Лёня крутнуўся пад коўдрай, зірнуў, спуджаны, на бацькаў ложак. Ён быў засланы, як заўсёды.

Пайшоў, значыць!

Усхапіўся на ногі, хуценька апрануўся, заслаў пасцель. Паслухаў наручны гадзіннік, ці не стаіць. Не, цікае са звонам. Не сышла заводка. А чаму ўсяго шостая гадзіна? Чаму няма бацькі? Уключыць прыёмнік, падумаў, трэба. Забег у залу.

Бацька, склаўшы на грудзях рукі, як некалі маці вечарам, ляжыць на канапцы. Ажно ў холад кінула Лёню! Аслупянеў ён, замёр не месцы! І чуе, што бацька храпе, а не кранецца. Бяда незабыўная, гора дзіцячае, а з таго і непраходнае, засланілі на момант чырвонае, зыркае, як сталь у канвертары, ранішняе сонца, усё жывое і раднае на зямлі.

— Тата, татка...—міжволі, глуха ледзь чутна для самога сябе сказалася, зляцела з вуснаў у Лёні.

— Чаго ж ты так рана ўстаў, мой братка? — лыпнуў вачыма, здзіўлена глядзеў на сына Антон.—Самы што сон...

— На завод пайду, тата.

— Што ж ты там будзеш рабіць, мой братка, у такую рань?

— Учора, тата, прынялі ў рамонтную брыгаду.

— У якую брыгаду?—насцярожыўся, сеў на канапцы Антон.—Бацькаў хлеб перасядае ў горле?

— Пайду на работу, вот і ўсё.

— У нас такі дастатак, мой братка. Я столькі палучаю... На кніжцы ляжаць... Гуляў бы леталі Чытаў кніжкі. У кіно хадзіў... Вучыўся б, мой братка.

— Буду вучыцца, тата.

— Паступіш у інстытут—куплю машыну.

— Не трэба мне, тата, твая машына. Глядзі сябе... Жэня палучае кватэру—памог бы ёй што набыць.

— Ты ж яе не любіў, мой братка.

— Глядзела нас Жэня. Людзі ведаюць... Любіў там калі ці не любіў, а памагчы трэба.

Антон апусціў галаву, закрыў твар далонямі, каб схаваць, затаіць заўсёды сваю радасць і гордасць за сына. Стала, як патомны рабочы, справядліва разважае Лёня. Як бы цешылася, ганарылася маці, каб жыва была!

Пакуль бацька перасnедаў, выбраўся з дому— Лёня ўжо быў каля табельнай.

З першай палучкі, пакуль частаваць сяброў, Лёня купіў каробку самых дарагіх цукерак, выбег з магазіна, аддаў іх на вуліцы Жэні, не саромеючыся, нават не зважаючы на бацьку, што ішоў побач з ёю.

На ўручэнне атэстата сталасці Лёня таксама запрасіў бацьку з Жэняй.

Лёня вучыўся ў інстытуце, без адрыву ад вытворчасці, на вячэрнім факультэце, на механіка. Амаль не стыкаўся дома. Завод—інстытут. Завод—бібліятэка. Звычайнымі сталі, паўсядзённымі такія маршруты. Пасля дзесяці—газеты, тэлевізар, калі што цікавае.

— А чаму ты, Лёнічак, ніколі з намі ў тэатр не хочаш схадзіць?—спытала неяк Жэня.—Бацька шкадуе, што ў маладыя гады адно толькі канвертар ведаў.

— Цётка Жэня,—усміхнуўся Лёня.— Мне б толькі дыплом... А там усё наверстаю!

— А дзяўчына, Лёнічак, у цябе ёсць?... Ці хоць бы на прыкмеце...

— За інжынера, цётка Жэня, пойдзе любая прыгажуня. Рана мне пра гэта думаць.

— Глядзі, Лёнічак, сам. Але не ўцякай ад жыцця.

Гаворка была звычайная, самая радавая, як тысячы да гэтага і пасля, але запомнілася яму, запала ў душу—наганяла бяссонніцу, трывогу. Лёня пачаў пільней прыглядацца да сваіх былых аднакласнікаў, што і на завод траплялі ў час, і вучыліся ў інстытуце, і на каток хадзілі, і з дзяўчаткамі сябравалі, не цураліся знаёмстваў.

І тут на практыку ў цэх прыйшла Валя Макавецкая. Стройная, прыгажуня з твару—адно замілаванне. А баіцца ўсяго—ні разу, вядома, не была на заводзе. Дык Жэня, знарочыста ці і сапраўды не знайшла для яе лепшага настаўніка,—пазнаёміла Валю з Лёнем.

Вясёлы, гаманкі, зусім яшчэ малады з выгляду хлопец з першага дня спадабаўся Валі. Галоўнае, смела, адкрыта можна з ім—і ўсякую дробязь уясніць. Як зайдросціла яна Лёню!

Хадзілі тыдзень і болей, як спрэжаныя. Антон зірне калі з вышыні, з рабочай пляцоўкі, адно ўсміхнецца. І дзе ж яму здагадацца, што ўчора, скажам, Жэня выпрасіла ў прафкоме, арганізавала ім білеты ў цырк. Тайком ад Цярэшкі-бацькі, бо той сарваў бы паход — ён і ў думках не дапускаў, што з-за нейкай практыканткі яго сын, маладзёнак, праміне лекцыі. Адным быў заняты Антон, каб вучыць і вучыць Лёню.

— Цётка Жэня, буду жаніцца! — нечакана, рашуча і настойліва аднойчы сказаў Лёня, ажно страху нагнаў на табельшчыцу. — Валя дала згоду!

— А бацька, Лёнічак, ведае?

— Баюся яму казаць, цётка Жэня.

— Ой, шуму будзе, Лёнічак.

— Памажыце, цётка Жэня.

— Паспрабую дазнацца, Лёнічак, што ён скажа.

Бацька сказаў:

— Лёня захоча жаніцца?... А інстытут, братачка мой! Няхай закончыць, уладкуецца на работу. Аўтарытэт заваюе...

— А калі цяпер, Антон, уздумае? Сёння, дапусцім, табе скажа: тата, буду жаніцца!

— Не скажа гэтага Лёня. Разумны хлопец.

— А калі скажа?

— Не падбухторвай мне сына. Прашу цябе, Жэня! Калі ўжо сам так наважыць!... Біцца не будзеш. Сваё дзіця...

«Вось жа трапіла паміж агнёў!» — думала, балюча перажывала, трывожылася Жэня. Спрабавала адгаварыць Лёню не жаніцца — дзе вы бачылі: як не плача, на сваім упарціцца. Валя Макавецкая—адна, маўляў, такая на свеце! А не пазнаёміла б, не звяла, злавалася ў душы Жэня, дык бы, можа, і не загаварыў ні разу, такі ціхоня. Але ж не скажаш гэтага ў вочы—затоіць непраходную крыўду. Ды чужое дзіця...

— Калі вельмі кахаеш Валю, дык распішыся, Лёнічак, перад сваім днём нараджэння. Сабярэш сяброў. Пагуляеце. І ўсё на гэтым.

— Бацька здагадваецца... Хадзіў у аддзел кадраў, каб не пакідалі на заводзе Макавецкую.

— А я схаджу ў партком, Лёнічак, і пакінуць Валю.

Так вырашылі і зрабілі.

Сабралася моладзь на кватэру, выпіваюць, сабе, гамоняць. І як не тост, дык абавязкова за Лёню і Валю.

Антон крыху насцярожыўся. Ды што ты каму скажаш у такім тлуме. Адно бегай у «Кулінарыю» і «Гастраном». Падавай ім на стол віно і закусь.

Радавала бацьку адно, што ў Валі канчаецца практыка: паедзе яна, і ўсё развеецца, забудзецца.

А то вось прыехала, у спецыяльным камбінезоне стаіць сцішана ў куточку цэха, глядзіць не спускае вачэй з яго. І раз адвярнуўся ад канвертара, і другі — быццам мае што сказаць. Ужо настырна ўтаропіўся ў Валю—хоць бы міргнула.

Гэтым часам якраз, пакуль Антон спрабаваў разгадаць сакрэт Макавецкай, канвертар здрыгануўся. Раз, другі... дзесяты. У цэху нязвыкла загудзела, загрукатала. Сцены, калоны, здавалася, хадзілі хадуном. Праз гарлавіну выплёскваўся метал, камякамі падскокваў угору шлак—распаленыя агаркі падалі на рабочую пляцоўку. І Антон ёмка, нават не азіраючыся вельмі, стараніўся іх, здавалася, танцаваў балет.

Антону Цярэшку не ўпершыню ўтаймоўваць плаўку. Некалі, як Жэня была тэхнолагам, здаралася і горшае. Але сёння ён упусціў момант, пакуль глядзеў у пакутлівым роздуме на Валю, не ведае, сіліцца здагадацца, з чаго пачаліся капрызы ў канвертары.

Сталявар хуценька, у долі секунды, уключыў падагрэў ванны, каб дабавіць туды крэмнія і марганца—тым самым суняць гарэнне жалеза, ад полымя якога, зыркага і белага, узбунтаваўся вуглярод, варочае канвертар. Антон рашыў, што бушуе метал, грыміць грушападобная махіна ад так званага «халоднага хода» плаўкі. Магло быць і такое, але ж канвертар падключаны больш гадзіны, павінен быць гарачы роўна, як і чыгун у яго чэраве. Крэмній і марганец, мільгнула думка ў Валі, тут не дапамогуць.



Мал. А. САПЕТКІ.

Макавецкая сіганула да лесвіцы, паднялася на рабочую пляцоўку.

— Антон Фаміч, паветра і руду з вялікім запасам кіслароду трэба ў канвертар! — крычала Валя.—Паветра і руду, я вам кажу!

Цярэшка павярнуў галаву да дзяўчыны, падняў засцерагальнае шкло, паглядзеў ёй у вочы. Імгненна падключыў паветра, падкінуў руды.

Удваіх ужо яны напружана і неадступна пазіралі за полымем, ці мяняецца, ці хоць крыху цямнее яно. У канвертар шугала паветра, ішла багатая на кісларод руда.

Нарэшце, збаўляючы за кожным разам струмень, пачаў выплёсквацца метал, радзей падалі агаркі шлаку на пляцоўку. Неўзабаве канвертар і зусім сціх, прыйшоў у норму.

Задаволены, Антон высока на лоб шмаргануў засцерагальны шлем, паглядзеў дзяўчыне ў вочы, усміхнуўся — не ведаў, што сказаць,як аддзякаваць. Надараецца ж і вопытнаму, знакамітаму майстру памыляцца.

— Ты, Валя, малайчына, мой братка!

Макавецкая сцепанулася, кіўнула галавою — служба ў яе цяпер, маўляў, такая.

— У інтэрнаце, Валя, пасялілася?

— Муж шукае кватэру...

— Які муж, Валя?—спахапіўся Цярэшка.

— Законны!...

Антон агледзеўся ў кантрольнае акенца. За гэты ж час і даўмеўся, і падумаў, і рашыў.

— Пераходзь ты да нас, Валя, і жывіце.

— Мы думалі ў Жэні пакуль што перабыць. Лёня купляе раскладушкі.

— Ах, гэтая Жэня!

Антон кінуў позірк на цэх — заўважыў яе каля табельнай. Заклапочаная і строгая. Жэня пільна ўглядалася на канвертар, а, можа, заадно і на шчаслівага Цярэшку з нявесткай. Сталявар пагразіў жанчыне кулаком — тоўстым, акруглым, як бервяно: рука была ў брызянтоўцы. Без кропелькі злосці і на твары, і ў душы.

— Наважылі так, чэрці паласатыя, дык будзем адным калгасам жыць!

Ён насунуў на вочы шлем, павярнуўся да канвертара. І тупаў каля яго, усхваляваны і радасны, да канца змены не азіраўся на цэх.

---

вы, у кастрычніку 1861 г. пры Тульскай гімназіі здаў экзамен на званне настаўніка рускай мовы ў павятовых вучылішчах. З 1861 года пачынаецца выкладчыцкая дзейнасць П. В. Шэйна ў навучальных установах Расіі, а потым у Беларусі.

Дакументальныя матэрыялы сведчаць, што Шэйн працаваў выкладчыкам нямецкай мовы ў Віцебскай мужчынскай гімназіі са снежня 1865 г. па сакавік 1873 г.

У першыя ж гады жыцця ў Беларусі ён займаўся вывучэннем асаблівасцей мовы і побыту беларускага сялянства. У 1867 г. Шэйн склаў праграму для збірання помнікаў народнай творчасці беларусаў і настойліва прапанаваў заняцца зборам твораў беларускай народнай паэзіі. У рапарце дырэктару народных вучылішч Віцебскай губерні ад 16 снежня 1867 г. ён пісаў: «Прыкладаючы пры гэтым кароткую праграму для збірання помнікаў народнай творчасці беларусаў, якую я склаў па Вашай прапанове, гонар маю літасціва прасіць... разаслаць яе, калі можна яшчэ да свят, да ўсіх штатных наглядчыкаў і павятовых настаўнікаў даверанай Вам дырэкцыі». Захаваўся экземпляр гэтай праграмы, якая хоць і не ахоплівала ўсіх бакоў жыцця народа, матэрыяльны грамадскі побыт і інш., але нягледзячы на сваю абмежаванасць у свой час мела вялікае значэнне для мабілізацыі мясцовых сіл і ўцягвання іх у вывучэнне культуры і побыту свайго народа. Заканчваючы праграму, Шэйн, звяртаючыся да ўсіх, пісаў: «Няўжо для грамадства больш блізкае знаёмства з сутнасцю духу народа не ёсць ужо адно з важнейшых і самых важных сродкаў да паляпшэння яго лёсу, да далейшага вядзення яго па шляху сапраўднага прагрэсу». У адказ на гэты заклік пачалі паступаць водгукі з розных куткоў Беларусі.

Шэйн шукаў спявачак і спевакоў, забіраўся ў самыя далёкія куткі. Ён стварае шырокую сетку карэспандэнтаў, у тым ліку настаўнікаў, вучняў і інш. У іх ліку можна назваць А. Багдановіча, Нікіфароўскага, якія ўнеслі значны ўклад у этнаграфічную навуку Беларусі. У 1869 г. П. Шэйну было адпушчана 100 рублёў папячыцелем Віленскай навучальнай акругі «ў дапамогу на выданне ім помнікаў беларускай народнай паэзіі». Дзякуючы гэтаму даследчык сабраў матэрыял і ў 1873 г. у «Записках геаграфічнага таварыства» была апублікавана яго вялікая работа «Беларускія народныя песні», якая атрымала высокую ацэнку акадэміка Я. Карскага.

У рабоце было многа цяжкасцей. П. Шэйн не мог цалкам аддацца любімай справе, таму што трэба было зарабляць на кавалак хлеба. А хвароба часта прыкоўвала яго да пасцелі, патрэбна было лячэнне, а грошай не было.

Вясной 1870 г. Шэйн папрасіў дырэктара вучылішчаў Віцебскай губерні выдаць яму дапамогу для паездкі ў Францсбад для лячэння мінеральнымі водамі. Аднак той не даў яму дапамогі, а пераслаў прашэнне папячыцелю Віленскай навучальнай акругі, які таксама адмовіў, указаўшы ў адносіне дырэктару вучылішчаў Віцебскай губерні: «Ці жадае Шэйн... адправіцца ў водпуск за граніцу за свой кошт». На гэтай адносіне П. Шэйн зрабіў прыпіску: «...адправіцца за граніцу для лячэння за свой кошт з-за адсутнасці ўласных сродкаў на гэты раз жадаць не магу».

А ў гэты час Шэйн быў відным вучоным, членам Рускага геаграфічнага таварыства.

Працягваў збіраць этнаграфічныя матэрыялы, запісваць песні Шэйн і пасля таго, як пакінуў Беларусь. У сакавіку 1877 года аддзяленне рускай мовы і славеснасці накіравала яго ў паўгадовую камандзіроўку ў наш край. Была выпрацавана праграма яго заняткаў, на падставе якой у час вышэй названай камандзіроўкі і наступных сваіх паездак ён падрыхтаваў вялікі збор сабраных ім помнікаў народнай творчасці.

Вынікам усёй яго шматгадовай даследчай дзейнасці ў Беларусі з'явілася трохтомная работа «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю». Па насычанасці і шматграннасці бытавога матэрыялу гэта работа займае адно з ганаровых месц у этнаграфічнай літаратуры канца XIX стагоддзя.

Я. БРАВЕР,
старшы навуковы супрацоўнік ЦДГА БССР.

---

Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з глыбокім жалем паведамляе аб заўчаснай смерці старэйшага артыста тэатра СТРУСЕВІЧА Мікалая Аляксандравіча і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

## ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Вячаслаў ХІЛІМОНАЎ

## НЕБЯСПЕЧНАЯ ХВАРОБА

Івану Ціханавічу, літаратурнаму супрацоўніку газеты «Наперад», даручылі весці новую рубрыку «Наш медыцынскі лекторый». За новую справу Іван Ціханавіч узяўся ахвотна.

— Гэта карысна, браточкі, — сказаў ён пасля лятучкі іншым супрацоўнікам. — Нават вельмі карысна. А для мяне — асабліва. Пазнаёмлюся з медыцынскай тэрміналогіяй, а то, прызнацца, у медыцыне я здорава плаваю. А заадно з прафілактыкай розных хвароб пазнаёмлюся. У жыцці ўсё спатрэбіцца. Старэем, браткі, старэем...

Ён адразу ж прыдумаў новую назву для рубрыкі — «З вамі гутарыць урач». Для таго, растлумачыў рэдактару, каб зацікавіць чытачоў. Лекторый, казаў сам сабе Іван Ціханавіч, больш падыходзіць для прапагандыстаў, агітатараў і наогул для вузкага кола чытачоў. А масаваму падавай, брат, больш кідкае, такое, каб адразу прыцягвала ўвагу. І з ім пагадзіліся.

Першы матэрыял, які яму прыйшлося апрацоўваць, называўся «Адзёр у дзяцей». Каб артыкул асабліва ўсхваляваў Івана Ціханавіча, дык не сказаць. Калісьці гэтую хваробу перанеслі і яго дзеці, і яму, як бацьку, давodзілася часта бываць у мясцовай амбулаторыі, мучыцца з імі дома. Цяпер Іван Ціханавіч усё тое дакладна ўспомніў, нават назвы медыкаментаў. Так што нічога новага з медыцынскай тэрміналогіі Іван Ціханавіч не адкрыў. Але артыкул атрымаўся і адразу ж пайшоў у нумар.

Не вельмі папоўніўся яго лексікон і пры апрацоўцы артыкула «Паносы ў дзяцей», з чым ён таксама быў добра знаёмы. Наогул, для Івана Ціханавіча дзіцячыя хваробы не былі адкрыццём. І таму ён моцна ўзрадаваўся, калі, нарэшце, атрымаў артыкул аб хваробах дарослых. Называўся артыкул «Рак поласці рота». Небяспечная хвароба, думаў Іван Ціханавіч, рыхтуючы матэрыял да друку. Бач ты яго, можа ўзнікнуць гэты рак ад хворых зубоў. А яны ж, халера, і ў мяне ёсць. Трэба нешта рабіць...

Закончыўшы апрацоўку артыкула, Іван Ціханавіч падаўся да зубнога ўрача. Праўда, ніякага рака ў яго роце не знайшлі, але два зубы вырвалі. «Ну, цяпер мне ніякі рак не пагражае», — радаваўся Іван Ціханавіч. І, каб папярэдзіць сваіх чытачоў ад захворвання такой страшнай хваробай, ён артыкул назваў так: «Беражыце свае зубы!»

Яшчэ больш хваляваўся Іван Ціханавіч, калі чытаў артыкул пра туберкулёз. Асабліва, калі дайшоў да такога месца: «Заразіцца туберкулёзам можа кожны чалавек і ў любым узросце». «Вось яно як, — думаў ён.— Значыць, і я магу...» Крыху супакоіўся, калі прачытаў далей: «Але заражэнне ім яшчэ не азначае захворвання». Ды супакаенне гэтае было нядоўгае. «Захворванне праходзіць непрыкметна, вяла»,— паведамляў аўтар артыкула. Калі ж Іван Ціханавіч чытаў пра сімптомы туберкулёза, дык з жудасцю адчуў, што многія з гэтых сімптомаў ён знаходзіць у самім сабе. «Трэба праверыцца», — рашуча сказаў Іван Ціханавіч і падаўся ў рэнтгенкабінет.

Доўга круціў яго перад экранам урач. Захворвання ў яго не знайшлі, але параілі кінуць курыць.

Хадзіў Іван Ціханавіч на праверкі і пасля апрацоўкі артыкулаў «Рак страўніка», «Нырачныя захворванні» і г. д. Ніякіх хвароб у яго не знаходзілі, але заўсёды нешта раілі: гарэлкі і віна не піць, рацыянальна харчавацца, займацца гімнастыкай. Іван Ціханавіч уважліва выслухоўваў гэтыя парады і пунктуальна іх выконваў.

Так бы мо яно цягнулася і да сённяшняга дня, калі б не новы артыкул, які трапіў у рукі Івана Ціханавіча, — «Пра кішэчныя захворванні і іх прафілактыку». У артыкуле нямала гаварылася пра халеру. «З халерай жартаваць не даводзіцца, — спахмурнеў Іван Ціханавіч. — Хутчэй да ўрача». Кінуўшы недапрацаваным артыкул, ён пабег у амбулаторыю.

У той дзень матэрыял у газету ён так і не здаў — затрымаўся ў чэргах да ўрачоў. Матэрыял замянілі другім. А назаўтра Івана Ціханавіча выклікаў рэдактар.

— Я ніяк не магу зразумець вашых частых наведванняў паліклінікі, — пачаў рэдактар даволі лагодна. — Што ў вас за хвароба?

— Я і сам добра не ведаю,—вінавата прызнаўся Іван Ціханавіч. — Мне здаецца, што ва мне яны ўсе...

— Так, так, — пагадзіўся рэдактар. — Вы, сапраўды, захварэлі і прытым небяспечна. І я вас вылечу... — Памаўчаўшы, ён дадаў: — Прыйдзецца забраць ад вас «Медыцынскі лекторый».

Праз некаторы час у газеце зноў з'явілася рубрыка «З вамі гутарыць урач». Іван Ціханавіч, памятаючы гаворку з рэдактарам, чытаць тое, што было пад той рубрыкай, пабаяўся.

Расул ГАМЗАТАЎ

## У АХВАХУ

Каб сэрца білася трывожна,
Давай паедзем у Ахвах.
Пазнаем, ці кахаць шчэ можам,
Ці адгулялі ў жаніхах!

Юнацтва ўспомнім у Ахваху,
І, як заведзена даўно,
Закіне кожны з нас папаху
Якой дзяўчыне у акно.

І стане ясна з той прычыны,
Каго кахае з нас яна:
Чыя папаха у дзяўчыны,
А чыя вылеціць з акна.

Я ўспамінаю час далёкі
Маёй юначае пары,
Пякучы погляд чарнавокай
І зоркавыя вечары.

Ледзь стаўшы юнаком бязвусым,
Не з аднагодкамі дружыў, —
Я стаў з дарослымі ў хаўрусе
І з імі да дзяўчат хадзіў.

Відаць, таму і апынуўся
Я з імі пад акном адным,
Упершыню дзе прамахнуўся
І не раскайваюся ў тым.

Лісцё шуршэла, нібы пена,
Як зачараванае, у сне;
Мы доўга слухалі, як пела
Гаранка, седзячы ў акне.

Пра сонца пела, пра заранкі
І пра таго, хто сэрцу люб.
Няхай спяшае да гаранкі,
Пакуль з другім не брала шлюб.

Затрапятала сэрца птахай,
І зашчымела так яно...
А хлопцы скінулі папахі
І сталі цэліць у акно.

Хоць хваляваўся вельмі крэпка,
Але, надзеяю сагрэт,
Як роўня, кінуў сваю кепку
За іх папахамі услед.

Душа была, здаецца, ў пятах,
Ў вушах стаяў такі трызвон,
Калі з акна, нібы ягняты,
Папахі выляталі вон.

І кепка з казырком, падобным
На перабітае крыло,
Упала, як на месцы лобным.
Я зразумеў усё без слоў.

Дзяўчына мне са спачуваннем
Сказала: «Хлопчык, пачакай.
Прыйшоў ты рана на спатканне.
Пазней як-небудзь завітай».

Дрыжу ад гора, як ад страху,
Нібы качуся па скале.
А нехта за сваёй папахай
Ў акно раскрытае палез.

Ды забываецца і гора.
Што не губляецца ў гадах!
Цераз гады, нібы праз горы,
Я зноў прыехаў у Ахвах.

...Зноў, як тады: і песня тая,
І падалося нават мне,
Што песню гэтую спявае
Дзяўчына тая ж у акне.

Калі ж папахі паляцелі
Дзяўчыне — шчасце зноў малю.
Ў раскрытае акно пацэліў
Я свой сталічны капялюш.

Мы ўсе ў няведанні трымцелі,
І кожны бачыў, як сляпы,
Калі папахі паляцелі
Падбітай птушкаю у пыл.

Я, прыхінуўшыся да клёна,
Хусцінкай выціраю пот:
Мой капялюш, нібы варона,
Ляжаў асобна ля варот.

Дзяўчына тут са спачуваннем
Сказала мне: «Ізноў бяда:
Прыйшоў ты позна на спатканне.
Дзе ж ты дагэтуль прападаў!»

Зноў, як тады — ў тумане вочы,
І крыўдна мне было ізноў:
Другі, што за мяне малодшы,
Палез ў раскрытае акно.

Я ўсё жыццё сваё старанна
Спяшаюся папасці ў час,
Але прыходжу вельмі рана
Альбо пазнюся кожны раз.

Пераклаў М. СКРЫПКА.

## З ПАДСЛУХАНАГА

*На вяселлі сусед суседу:*

*— Слухай, чаго ты многа п'еш? Усе па адной, а ты адразу — па дзве чаркі.*

*— Гэта ж, братка, я жонцы памагаю, Каб яна, крый божа, не ўпілася.*

□

*Мужык цыгану:*

*— Што ты разлёгся, як пан, сярод хаты? Забірай манаткі, ды вон з хаты. Мне самому няма дзе з дзецьмі павярнуцца.*

*— Дурны чалавек. Чаго крычыш? Забірай сваю хату ды пераносъ куды хочаш, калі табе гэтага месца шкада, дзе я ляжу.*

Запісаў В. МАКАРЭВІЧ.

Іван БАБЯК

## ШРАЦІНКІ

Лаўкач умудраўся грэць рукі нават на марожаным.

□

Валодала надзвычайным слыхам—міма яе вушэй не праходзіла ніводная плётка.

□

Светапогляд яго не змяніўся і тады, калі ён набыў акуляры.

□

Пра іх гаварылі: «Пара закаханых». І не без падстаў: ён моцна кахаў яе, а яна—другога.

□

«Аддаць канцы»—марскі тэрмін. На сушы ён мае іншы сэнс.

□

Згубіўшы галаву—не спяшайся ў стол знаходак.

□

Вуліца, на якой былі рэстаран і тры піўныя, мела назву—Ціхая.

Марат БАСКІН

## КАЛАБОК

### СТАРАЯ КАЗКА НА НОВЫ ЛАД

— Я і дзеда перагнаў, я і ваўка перагнаў, і зайца, калі трэба, пераганю! — праспяваў абітурыент Калабок і пaглядзеў адданымі вачыма ў вочы членаў прыёмнай камісіі.

— Ну і што? У нас жа матэматычная вну! — адкрыў рот малады дацэнт, але на яго замахалі рукамі старэйшыя.

Рэктар зірнуў на сакратара камісіі. Сакратар паглядзеў на загадчыка кафедры фізічнага выхавання.

— Трэба прымаць, — катэгарычна зазначыў той. — Вы, напэўна, ведаеце з суседняга інстытута Лісіцына?

Усе дружна заківалі галовамі.

— Дык вось, Лісіцын доўга чакаць не будзе: схопіць Калабка, як кажуць, — і не згледзіш! І тады канец нашай фізкультурнай казцы!

І Калабок адзінагалосна быў залічаны студэнтам матэматычнай вну.

## МІМАХОДЗЬ

Б. ВІНАГРАДАЎ

● *Аднойчы ён знайшоў на вуліцы дзесяць капеек і з той пары ўсё жыццё хадзіў, апусціўшы ўніз галаву.*

● *Адзінае, што ён чытаў, было абедзеннае меню.*

У. РУДЗІНСКІ

● *Даўжнік замест грошай прыносіў толькі выбачэнні.*

● *«Перамелецца — мука будзе»,—любіў прымаўляць млынар.*

● *«Я люблю цябе без памяці», —гаварыў п'яніца жонцы.*


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 07646.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.